—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
22
МАЯ
1992 г.
№ 21 (3639)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)



# З БОЛЕМ... І НАДЗЕЯЙ

**Тры дні сцэна Палаца культуры «Шыннік» г. Бабруйска была аддадзена прыхільнікам народнай творчасці. Тут з 15 па 17 мая праходзіў I Беларускі фестываль народнага танца «Пярэзвы-92».**

Не ў лепшыя часы для культуры праходзіла гэтае свята, і на душы рабілася яшчэ трывожней ад думкі, як яно пройдзе і ці можна будзе ўвогуле назваць гэты фестываль святам танца.

Занепад духоўнасці, адсутнасць не толькі тавараў у крамах, а, на вялікі жаль, і нацыянальнай самасвядомасці, мовы... Не хочацца далей працягваць пералік шэрых плям, якія не ў меншай ступені, чым чарнобыльскі выбух, пацішу знішчаюць з зямлі нашу шматпакутную нацыю.

Сярод усіх гэтых «прыгажосцей» мінулага не ў лепшым стане апынулася і нацыянальная харэаграфічная культура. Знікаюць са сцэнічных пляцовак многія ўзоры беларускага народнага танца. Цяпер рэдка ў рэпертуары калектываў можна ўбачыць «Юрачку», «Падсеван», «Боб малачу», «Жабку», дэфіцытам робяцца многія полькі (а вы толькі падумайце: іх у нас больш за 80! «Трасуха», «На пяце», «Паджывотніца», «Вінтом», «На калена» і г. д.), знікае сольная пляска танцораў. Амаль ніхто не звяртаецца да сцэнічнай класікі беларускай народнай харэаграфіі ў пастаноўках К. Алексютовіча, Я. Хвораста, С. Дрэчына. З вялікім недаверам многія з кіраўнікоў калектываў адносяцца і да тэарэтычных навуковых работ па харэаграфіі як сучасных, так і фалькларыстаў мінулага. Хаця, на мой погляд, дзе, як не ў гэтых матэрыялах сапраўдны балетмайстар можа знайсці непаўторныя рухі таго ці іншага танца і адчуць праз іх манеру, характар выканання нумара. На жаль, пра ўсё гэта многія пастаноўшчыкі забываюць. Таму і бачым мы на сцэне ў асноўным адны і тыя ж танцы, амаль з аднолькавымі рухамі. Адсюль, як вынік, знікае непаўторная манера выканання кожнага з танцаў, знікае яго «беларускасць», характар. На апошнім хацелася б спыніцца больш дэталёва.

Манера выканання, яго характар, так званая «беларускасць»,— на чым яны трымаюцца? Без сумнення, у першую чаргу на рухах, якія з дапамогай музычнага суправаджэння, а ў многіх выпадках і слова, даюць магчымасць гледачу адчуць, што гэта менавіта беларускі, а не які-небудзь іншы танец. На жаль, усё часцей у пагоні за славай, замежнай паездкай на сцэне мы бачым набор тэхнічных элементаў, трукаў рускага, украінскага танцаў, якія знішчаюць беларускі танец, яго характар, манеру, узаемаадносіны не толькі паміж партнёрамі, але і выканаўцамі і залай. Знікае з карагодаў слова; хоць па сваім паходжанні карагод заключае ў сабе гарманічнае адзінства руху, музыкі і слова. Не ўключаюцца ў многія танцы прыпеўкі, якія раней былі іх вернымі спадарожнікамі.

З гэтымі думкамі, з болем у сэрцы і ехаў я на фестываль беларускага народнага танца.

Праграма была насычанай і, як кажуць, «адразу з карабля на баль». Шэсце ўсіх удзельнікаў фестывалю па вуліцах Бабруйска. Здавалася, што ў ім танцавала ўся Беларусь. Хутчэй гэта была не калона, а букет, у якім што ні кветка, то своеасаблівы рэгіянальны танец, музыка, строй. Урачыстае шэсце завяршаецца перад Палацам культуры. Падымаецца сцяг фестывалю, які сведчыць пра яго адкрыццё.

«З крыніц невычэрпных» — так называлася праграма першага дня фестывалю, у якой прымалі ўдзел фальклорна-этнаграфічныя гурты, інструментальныя капэлы, салісты-выканаўцы народных танцаў, песень, музыкі. Сапраўднае свята фальклору! Звыш 20 гуртоў, выканаўцаў-салістаў вярнулі нас на некалькі стагоддзяў назад. Загучалі песні адных са старэйшых удзельніц фестывалю —

(Працяг на стар. 3).



Наперадзе фестывальнага шэсця — самыя маладыя яго ўдзельнікі.



Праз хвіліну будзе ўзняты сцяг «Пярэзваў».

Юрка ГОЛУБ



## Балада ручая

А як ён весела крычаў,
Ляцелі пырскаў гроны,
Маёва ўквечаны ручай,
Што высах, як гідронім.

На белым дне, бы палатне,
Залеглі слёзы чорна.
Паглянь — адразу калатне,
Як подыхам з пячоры.

Закасцянелая вярба
Глытае ў пыле смагу,
Нібы прасолены гарбар
Каля пустой біклагі.

Ляціць луска з календара.
Жыве балесны покі
І здзек не можа дараваць
Аблуднае эпохі.

І з каламуці злосных дзён
Чарпаць ваду ці станеш!
А быў ручай той не жадзён
Вандроўніку і стайні.

Прыстану моўчкі. Сам сябе
Спытаю асцярожна:
«А як цяпер усё ж паспець
Назад, у край мурожны!»

Ды лепей, браце, не пытай,
Брыдзі, як мніх, асфальтам.
Ляжыць ручво, нібы пятля,
Павешанага гвалтам.

## Радкі пра Гаўрылу Шутэнку

Ён змроку клеці абхадзіў,
Не далікатна тэпаў
І кожнай красцы дагадзіў
І на лугах, і ў стэпе.

У пыл аслепленых дарог
Была няўмольнай позва.
Навечна промень ён зьярог
І не лічыў за подзвіг.

Краёў паўднёвых пасланец,
На Свіцязі паломнік,
Не ўзяў яго ў палон свінец,
У верша стаў палонным.

І дзеду моц не пазычаць,
(І гэта сказ не байчын)
Ён цягне цемру на плячах,
Нутром, як ястраб, бачыць.

У неба кінуў звонкі ліст
І дуб — ягоны хроснік —
І пад гарласты птушчын свіст
У кроне сонца носіць.

А ў дзеда сонцу ёсць начлег
У памяці траншэйнай:
Біклажка з коркам на чале,
Сухар пры ёй з кішэні.

Не звыкся жаліцца бядзе,
Даніну браць з аптэкі,
І ноч разведчыка вядзе
Па мінах доўгім стэпам...

## Вітраж

Шкляны палац,
Як куфар скарбаў,
Пачаў палаць
У сотні фарбаў.

Дзіцячы сад,
Заўжды вясёлы,
Успыхнуў сам
У сто вясёлак.

І нават дом,
Нутром казённы,
(Бы грымнуў гром)
А стаў стазвонам.

Адна турма
У цэню змрочным:
Яе дарма
Злы дух сурочыў.

Мастак складаў
З імпэтам шклінкі
І сам глытаў
Шчасліва слінку.

Тады, як след,
Дайшоў да толку:
Скляпаны свет
З асклёпкаў толькі.

## Няўрокам

Не цешыць уласны рэкорд,
Што пыхаю поўніў.
Надзея з пабітай рукой,
Як зрынуты помнік.

На друзе былога стаім.
Дыміцца акурак.
І загваздка нават не ў тым,
Ці знойдзем прытулак.

Вунь ястраб у лёце відзён,
Пакутнік абшараў.
Шкада разнасцежаных дзён,
Гары яно гарам.

У вусцішнай хаце цяпер
Развазе б спыніцца.
Трымаецца логава звер,
Дзіця за спадніцу.

## Непапраўны

Вецер у скверы грабе
Залежы лісця.
Думы нясу на гарбе.
Дождж — хоць заліся.

Цягне радоўку трамвай.
Здоўжыцца ноччу.
Гэтак трымае турма
Выраку ношу.

Транты да торбы складу,
Часу б не страціць.
Свету находзіць кадук,
Хай яго трасца!

На табе ўласны блакнот,
На — акуляры.
Покуль з заспаных бакоў
Счыніцца алярм.

Хочацца зорам маўчаць,
Выспацца — воям.
Прыказку стаў прыкмячаць:
Вольнаму — воля.

Думацьму,
Спрытна ўсё ж збег.
Прама...
Праз вечнасць...
Направа...
Зноў перавучваць сябе!
Гіблая справа.

## Разьбяр

Рука па ласцы разьбяра
Крушыне грудзі вызваляла.
У ста гаях ён выбіраў,
А вось такое бракавала.

Прыліпла пасма наўскасы,
Знямелі верадныя пальцы,
Нібыта сена накасіў
І стаў у лета пастаяльцам.

Ён адхіляўся незнарок
І закрываў наглуха вочы,
І засынаў у ім прарок,
І прачынаўся голад воўчы.

Ізноў хапаўся за разец.
І аплываў начы агарак.
А ранак пачынаў рудзець
І націскаў, руды, на карак.

А майстра пацеры шаптаў,
І дрэва шэптам паўтарала,
І гэта значыла накшталт:
Краса нікога не карала.

І каб не плакаць, а пяяць,
Пакутай долю аплаціла.
І ёй на сонейку стаяць,
А не ў цянётах павуцінных.

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# Дык вольнаму — воля

**Адказ беларуса з Расіі расійцу на Беларусі**

Прачытаў у «ЛіМе» (№ 16) нататку Галіны Каржанеўскай «Дзіўныя рэкамендацыі, альбо Такое бывае толькі ў нас». Мясцовы жыхар Г. Уласаў скардзіцца ў Вярхоўны Савет рэспублікі на «ЛіМ», што той паклёпнічае на рускі народ, праяўляе сваё русафобства і наогул ашалелы нацыяналізм і распальвае міжнацыянальную варожасць. Усё гэта ўспрымаецца як злая іронія лёсу сённяшняй суверэннай незалежнай Рэспублікі Беларусь, якая, бадай (адна з нямногіх), не хварэе на нацыянальную міжусобіцу ў сілу свайго неагрэсіўнага характару. А калі зірнуць на гэтую скаргу ў гістарычным разрэзе, дык яна дастойны нашчадак сваіх «слаўных» продкаў — даносаў 37-га.

«ЛіМ» сёння — сэрцавіна лічаных беларускамоўных выданняў сярод безлічы рускамоўных. І ён канцэнтруе вакол сябе творчую інтэлігенцыю, яе памкненні на Адраджэнне Беларусі. Працуе ў меру сваіх магчымасцей, а можа, й больш таго пасля праслаўтага «росквіту беларускай культуры, нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па змесце». Скарга на «ЛіМ» у такім варунку з'яўляецца спробай чарвяка падтачыць сэрцавіну беларускага Адраджэння, зваліць усё з хворай галавы на здаровую. Самазванскае прадстаўніцтва скаргі ад імя рускага народа — знаёмая шырма для антыбеларускіх амбіцый. За прыпісванне «ЛіМу» русафобства Уласаву заканамерна можна прыпісаць беларусафобства, ды гэта па сутнасці будзе не заслужана ім, таму што ён наогул ніякай беларушчыны й духу не прызнае і адмаўляе права на яе існаванне.

Рускамоўны прыярытэт Уласава ваяўніча не жадае ўкладвацца ў беларускамоўны суверэнітэт, адсюль і ўвесь фальш яго скаргі і бязглуздасць абвінавачвання, каб толькі як-небудзь абы-якімі сродкамі зрываць нацыянальнае Адраджэнне беларускага народа і трымаць яго ў балоце безаблічнага інтэрнацыяналісцкага нігілізму, манкурцтва.

Мы ўсе, жыхары былога Саюза, з'яўляемся рускамоўным насельніцтвам, але далёка не ўсе—ўроджаныя расійцы. На ўсіх саюзных этнічных тэрыторыях карэнны этнас, як правіла, пераважае над мазаікай прышлага. Але калі прышлыпнецца пераважаць над карэнным этнасам, дзейнічаць любым спосабам асімілятарскага місіянерства, тады й пачынаюцца так званыя нацыянальныя праблемы, у тым ліку і названая скарга на «оголтелый белорусский национализм».

Беларусаў жыве ў Расіі на шмат больш, чым расійцаў на Беларусі, мабыць, адпаведна іхнім этнічным тэрыторыям. І я не чуў і не ўяўляю сабе, каб які-небудзь беларус скардзіўся тутэйшым уладам ці ад свайго імя, ці ад імя беларускага народа на рускі нацыяналізм, на рускі друк. Што гэта значыць? А тое, што беларус не лічыць Расію сваёй уласнай вотчынай, а толькі прыдатным месцам пражывання. І ён ставіцца з павагай да расійскага свайго дома, падпарадкоўваючыся яго мове, звычаям, законам, не навязваючы свайго статута.

Жывіце, аўтар скаргі, на Беларусі так, як беларусы жывуць у Расіі, і вашы прэтэнзіі адпадуць самі па сабе. А калі так жыць не хочацца, дык — вольнаму воля, і тады вінаватых шукайце ў самім сабе.

**Яўхім КОХАН.**
г. Багародзіцк Тульскай вобл.

# «Ніякай газеце я не веру так...»

Прачытала ў штотыднёвіку нататку Міколы Бусла «Ці запалітызаваны «ЛіМ»?» і цалкам згодна з аўтарам. Напэўна, усе чытачы «ЛіМа» падтрымліваюць менавіта палітычную лінію газеты і таму выпісваюць яе па 20 і больш гадоў. І сапраўды, ніякай газеце я не веру так, як «ЛіМу».

У нумары «ЛіМа» за 8 мая 1992 г. надрукавана інтэрв'ю з Уладзімірам Конанам. Яго артыкулы надзвычай актуальныя, іх я чытаю заўсёды першымі. А за гэта інтэрв'ю хочацца асабліва падзякаваць яму і Юрасю Залоску. Усё зразумела, але назавём рэчы сваімі імёнамі: у нас няма свайго нацыянальнага універсітэта, Беларускай акадэміі навук, Беларускага політэхнічнага інстытута. У нас ёсць толькі наша літаратура і Беларуская мастацкая акадэмія (падрыхтоўка мастакоў і графікаў, але не акцёраў).

Дзякуючы гэтаму інтэрв'ю з У. Конанам я зразумела, што адбываецца пасля так званай «жнівеньскай рэвалюцыі». Як «экспрапрыіравалася» ўласнасць народа, у чые рукі яна трапіла — у выніку «легітымацыі» «ценявога» рынку да «крымінальнай буржуазіі і той жа гандлёва-размеркавальнай бюракратыі».

І нарэшце, хто ж у нас знаходзіцца ва ўладзе? Быццам бы яна змянілася, а нічога — ні ў духоўных, ні ў матэрыяльных адносінах — не стала лепшым. І вось ужо некаторыя, ва ўсім зняверадыя людзі пачынаюць спадзявацца нават на такога адыёзнага палітыка, як Жырыноўскі, адмаўляючы ў справядлівасці ўсім дэмакратам наогул, не разумеючы, што сапраўдных дэмакратаў у Вярхоўным Савеце Беларусі лічаныя адзінкі, а ўладарадзь па-ранейшаму тыя ж самыя людзі, толькі перафарбаваныя, як кажа У. Конан. І пра гэта трэба гаварыць на кожным кроку, каб народ нарэшце зразумеў, чаму яму робіцца ўсё горш і горш. Многія газеты пра такое становішча не згадваюць зусім, трацяць паперу на бясконцую, нікому не патрэбную балбатню. Вашу ж газету яшчэ і папракаюць за празмерную палітызаванасць. Гэта ж трэба дадумацца! Іншыя цэхі, бачыце, пакрыўдзіліся. Іншыя цэхі — тэатр, кіно, тэлебачанне, радыё — у нас наскрозь русіфікаваныя, і самі найлепшым чынам спрыяюць усеагульнай русіфікацыі. Дык яны яшчэ і крыўдзяцца, што ў «ЛіМе» пра іх мала пішуць. Пабойцеся Бога!

**Н. САКАЛОВА.**
г. Мінск.

# Далучаю сваю прапанову...

Цалкам падтрымліваю слушныя думкі А. Краўцэвіча, выказаныя ім у артыкуле «Патрабуецца міф. Да стварэння канцэпцыі нацыянальнай гісторыі» («ЛіМ», 17.4.92 г.).

У сучасных умовах мы не можам чакаць спантаннага росту нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Менавта мы, навукоўцы, пісьменнікі і журналісты, павінны зрабіць захады, каб паскорыць яе выспяванне праз папулярнае распаўсюджванне гістарычных ведаў пра Беларусь. Сапраўды, да новага навучальнага года можна паспець распрацаваць метадычныя рэкамендацыі і надрукаваць іх не толькі ў «Настаўніцкай газеце», але і ў «Звяздзе», «Чырвонай змене», а таксама і ў рускамоўных выданнях.

Трэба ўлічваць, што пераважную большасць падпісчыкаў пакуль што маюць рускамоўныя выданні. Многія з рускамоўных падпісчыкаў добразычліва ставяцца да беларусізацыі, і не іх віна, што ў свой час савецкая ўлада не дала ім ведаў аб сапраўднай гісторыі і культуры Беларусі. Даведаўшыся аб сапраўднай гісторыі Бацькаўшчыны, яны адчуюць гонар за яе, і паступова стануць прыхільнікамі працэсу беларусізацыі, а не праціўнікамі.

Да прапаноў А. Краўцэвіча далучаю сваю — раю выдаць хоць бы ратапрынтным метадам брашуру ці перадрукаваць ва ўсіх газетах руска- і беларускамоўных артыкулы газеты «Культура», якія тычацца гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Брашуру можна будзе часова выкарыстаць як дапаможную літаратуру для папулярнага выкладання гісторыі Беларусі эпохі ранняга феадалізму ў першых класах агульнаадукацыйных школ.

**Мая ЯНІЦКАЯ,**
**ст. навуковы супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны.**



# Што і як далей?

## Палітыка-літаратурны роздум

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

Ці МОЖНА, калі лічыш сябе літаратарам ці нават больш гучна — пісьменнікам, быць адасобленым ад таго, што ёсць, як пісалі нядаўна, «грамадскай дзейнасцю, барацьбой, у якой адлюстроўваюцца карэнныя інтарэсы класаў і іхнія ўзаемаадносіны», «удзелам у рэвалюцыйным руху, у рэвалюцыйнай рабоце» — карацей, ці можна быць адлучаным ад палітыкі?

Не. Здаецца, быць цалкам вольным ад такой, з аднаго боку, прыцягальнай, а з другога боку, гнюснай рэчы як палітыка, немагчыма. Калі ты нібы не займаешся **ніякай** палітыкай, дык ты праводзіш **пэўную** палітыку. Палітыка — слізкая сцяжына, адмысловая рэч. Яна — для мужных і сумленных, заадно і для хітрых ды прайдзісветаў; за яе бывае разуменне, павага, але выпадае і гнеў, абразы, нянавісць і смерць альбо новае жыццё пасля смерці...

Бярэ жах: якая безліч цяпер, пры новым павароце, работы нашым філосафам, гісторыкам, грамадазнаўцам, даследчыкам літаратуры і мастацтва! Колькі ўсяго трэба пераасэнсоўваць, пераацэньваць і перапісваць! І трэба варушыцца ды рупіцца! Каб выбіцца з пакручастых завулкаў, па-новаму зірнуць на сябе і на свет, сказаць пра ўсё большую праўду, у тым ліку і горкую! Скажам, патрэбны зусім новыя гісторыя Беларусі і БелСЭ (зрэшты, ужо не БелСЭ, а энцыклапедыя Беларусі) і г. д., і г. д.

Ну, а што да нас, літаратараў і пісьменнікаў?

## Ад Дуніна-Марцінкевіча...

Ці палітыкавалі нашы пачынальнікі?

Без ніякага сумнення: мелі свае ідэалы, вялі сваю лінію. Праўда, многія з нас яшчэ і цяпер глядзяць туды, у мінулае — да слова, на з'яву Дуніна-Марцінкевіча — не здаровымі вачыма, а праз цёмныя акуляры абэцэдаршчыны. Гэтыя акуляры дазваляюць убачыць з'яву альбо сілуэт, але змушаюць глядзець на ўсё зусім не пры натуральным святле. Нават у размове з настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры пачуеш стэрэатып: той жа наш прабацька Дунін-Марцінкевіч — «панок», «дробнабуржуазны» дзеяч і пісьменнік, які гэтага і гэтага «не бачыў», «не мог альбо не хацеў бачыць» — адпаведна, згодна абэцэдаршчыне, не змог ці не зажадаў «набліжаць» самую перадавую за ўвесь час чалавецтва бальшавіцкую ідэю...

Мы не можам добра ведаць, што і як думаў Дунін-Марцінкевіч пра тагачасныя і будучыя палітычныя варункі; ён нібыта быў далекаваты ад іх, што, безумоўна, тады былі розныя: у велікарускім і дзяржаўным асяроддзі — адны, у польскім памешчыцкім альбо спаланізаваным — крыху іншыя, а сярод «тутэйшай» шматмільённай грамады — свае. Мабыць, напачатку ён быў з сябрамі па няволі, падзяляў тыя ідэалы, якія песціла на той час змардаванае, але гордае і вольналюбівае польскае сэрца. Але пасля ён, не дэкларыруючы палітычных поглядаў, нібы праскокваючы паміж пільных адно да аднаго русіфікатарскага афіцыёзу і польскай апазіцыі, не гучна, але чутна падаў голас ад народнай большасці, дзе ён быў паўпан і паўселянін. І гэты ягоны голас ужо сучаснікамі пачуўся як голас сур'ёзны, з перспектывай. Дэмакратычныя сілы падтрымалі гэтыя паўнамоцныя захады, шавіністычныя ашчэрыліся супраць — за «месніцтва», за «інтрыгі», а на самай справе за пільнае асэнсаванне рэчаіснасці, за павагу да селяніна, які ад «хлопа» альбо «черни» ўзвышаўся да чалавека, які патрабаваў зусім іншых адносін. І, канечне ж, антыбеларускія сілы не маглі спрыяць Дуніну-Марцінкевічу ў тым, каб ён «мужыцкае» слова падымаў да «панскага».

Ды пасеенае Дуніным-Марцінкевічам трапіла не толькі на пясочак, але і на ўрадлівую глебу. Няхай сабе яго наступнік, Багушэвіч, не цалкам згодзіцца з такой сяўбой, падакарае за неакрэслены дакладна нацыянальны ідэал, але, што ні кажы, Дунін-Марцінкевіч адзін з першых не толькі ўчуў патаемныя размовы віленскіх прафесараў пра адраджэнне краю, не толькі своечасова заўважыў спробы падаць голас паэтаў-самавукаў альбо тых, хто прысвяціў сябе іншай культуры, але час ад часу не мог не заўважаць беларускага слова. Дунін-Марцінкевіч адзін з першых усё гэта ўзбуйніў, узвысіў да значнага мастацкага ўзроўню, а сам заявіў пра сябе не як пра любіцеля, а прафесіянала справы.

Трэба больш дбайна перагледзець многія вершы Дуніна-Марцінкевіча, а ягоную п'есу «Пінская шляхта» — найперш. У ёй наш патрыярх быў вышэй, глыбей, чым мы лічылі дасюль: ён не столькі «паказаў непазбежны крах старамоднай беларускай шляхты», колькі, на мой погляд, адлюстраваў іншае: саслоўе, што ў свой час падняло, умацавала Вялікае княства Літоўскае, развіло беларушчыну, у наўмысна створаных царскім урадам умовах мусіць выраджацца і быць блазнам, нават горш — губіцелем сябе і народа. Нямала дзесяцігоддзяў мінула з таго часу, калі была напісана п'еса, але яе героі нібы жывыя і сёння, у новай рэчаіснасці: і нахабная набрыдзь тыпу Кручкова, і халуй Пісулькін, і ўвогуле неблагія гаспадары ды людзі Пратасавіцкі і Цюхай-Ліпскі з жонкамі і дзецьмі, але якія страцілі штосьці значна большае, чым іхняе прадзедаўскае шляхецтва, а ў выніку пакорліва дазваляюць сябе рабаваць і прыніжаць рознымі спрытнюгамі, хто хоча бачыць іх якраз такімі. Бясспрэчна, у п'есе закладзена больш, чым нават гаворыць сам аўтар: «Рэч адбываецца ў ваколіцы О... паміж балотаў, у глушы Пінскага павета». Мы не ведаем: адчуваў ці не адчуваў Дунін-Марцінкевіч, што непазбежна выйдзе за межы абазначанай мясцовасці, але мы сёння не можам не адзначыць, што яму ўдалося і наколькі яно, сказанае смехам праз душэўныя слёзы, мастацкае, а значыць і жывучае. Як, паўторым, і надзённае. Праўда, пры сцэнічным увасабленні п'есы рэжысёры гэта, гістарычную трагедыю «пінскай шляхты» у тым ліку, падкрэсліваюць найменш, узбуйняючы іншае — яе непаўнацэннасць і нікчэмнасць.

Жыццёвы і мастацкі вопыт Дуніна-Марцінкевіча дазволіў Багушэвічу больш абвострана адчуць лёс беларускай гісторыі, народа, ясней і перакананей замацоўваць у свядомасці: людзі, браточкі, мы — не абы-хто і не абы-што, не нейкія тутэйшыя альбо чыесьці адросткі, мы такія ж, як і іншыя добрыя людзі, мы — Беларусь, беларусы! Мы павінны не толькі ведаць, хто мы, але і развіваць усё сваё лепшае! Бясспрэчна, Багушэвіч выводзіў на шырэйшыя абсягі, па-за фальваркі і правінцыю, убачыў вялікую патэнцыяльную сілу ў народзе, даў яму большае слова; Каліноўскі вылучыў ужо калі не пэўную праграму дзяржаўнага самаазначэння, дык пэўныя праграмныя тэзісы палітычнага пераўтварэння ўжо не шляхам «тихого сетования» (Пушкін), а праз зброю і рэвалюцыйныя змены. Цяжка меркаваць, што атрымаў бы тагачасны неаб'яднаны нацыянальнай ідэяй беларускі народ, каб паўстанне 1863—1864 гадоў закончылася перамогай. Ведаючы цяпер пра не вельмі вялікую цярпімасць рэвалюцыянераў, нельга не задаць пытанне: а якім быў бы Каліноўскі-пераможца? Рэфарматарам і дбайным гаспадаром краю? Чырвоным дыктатарам? Альбо неўзабаве пасля перамогі загінуў бы ад яду ці нажа сваіх жа паплечнікаў альбо польскіх сапернікаў, якім мог быць не зусім зручны?

Мы яшчэ многага не ведаем пра тых «белых» і «чырвоных» (да слова, цікавую версію некалькі гадоў назад вылучыў Э. Скобелеў у апублікаванай у «Нёмане» драматычнай паэме пра Каліноўскага. Як я зразумеў, аўтар лічыць таго найперш як грамадзяніна свету, які адносіўся да народа досыць зняважліва).

Што да мяне, дык я лічу: пры ўсёй агульначалавечнасці Каліноўскі ўсё ж рыхтаваў «дзецюкоў» (найбольш свядомых і здаровых землякоў) да дзяржаўнага адраджэння, дзеля чаго, як у свой час папракаў Г. Кісялёў, «ідэалізаваў мінулае беларускага народа». Сёння, безумоўна, варта лепш разабрацца: ідэалізаваў ці аднаўляў гістарычную памяць, без якой не можа быць пааўнацэнным кожны народ?

Каліноўскі не стаў пераможцам; яго залічылі ў стан дзяржаўных злачынцаў; царскі ўрад, зрабіўшы сваё штыком, астатняе даручыў закончыць чыноўнікам і папам. Але парадокс: чым болей шалёна і бязлітасна набрыддзю і мясцовымі халуямі знішчалася беларушчына, чым бліжэй было відаць магільнае ўціхамірванне краю, тым мацней афармлялася беларуская ідэя, а Каліноўскі не толькі паўставаў з клятага незабыцця, але і станавіўся нацыянальным героем. З часам — усё больш і мацней. Зусім невыпадкова, што да самага апошняга часу нашы чыноўнікі і іх паслугачы абачліва дазіравалі ўплыў Каліноўскага, не давалі ў поўным аб'ёме азнаёміцца з «Мужыцкай праўдай» і «Пісьмамі з-пад шыбеніцы», выхоўвалі на іншым, на сваім, часамі фальшывым і антынародным.

Сёння ўсё больш і больш у новым абліччы паўстаюць перад намі і тыя, пра якіх мы яшчэ нядаўна калі і чулі, дык як пра нашых заклятых ворагаў. Скажам, пра братоў Луцкевічаў. Між тым яны адны з першых на самым пачатку гэтага стагоддзя падхапілі эстафету Каліноўскага, але выбралі свой шлях барацьбы — пачалі шукаць, аб'ядноўваць свядомыя беларускія сілы, каб разам выпрацаваць ідэю, праграму для беларускага народа, заснаваную на сацыялістычнай і нацыянальнай платформах. Калі б не Луцкевічы, бадай, не было б «Нашай Нівы», а без яе цяжка ўявіць вялікую асветніцкую работу, ажыўлены адраджэнскі рух, нацыянальную свядомасць, урэшце без яе няпроста ўявіць Купалу, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага — тых, хто ўжо не толькі прадоўжыў беларускую літаратуру, але лепшымі творамі наблізіў яе да сусветных узораў.

Усе яны, нашы папярэднікі, пісьменнікі і палітыкі, у меру сваіх сіл спрыялі падрываць моц самадзяржаўя, гмах Расійскай імперыі і набліжаць рэвалюцыі. Што да іх, рэвалюцый, дык, здаецца, імі больш летуценілі «чыстыя» палітыкі, што да пісьменнікаў, дык яны не столькі мроілі пра іх (той жа Купала не столькі клікаў «пусть сильнее грянет буря!», колькі клікаў «людзьмі звацца» і рыхтавацца ісці на «Вялікі Сход», каб там, як мы цяпер кажам, шляхам перамоў і згоды выказаць свой боль, атрымаць разуменне ды падтрымку і мірна заняць свой «пачэсны пасад між народамі»). Што да кастрычніцкага перавароту і разгону Устаноўчага сходу, дык з гэтым не згадзіліся многія і з палітычнага лагера, убачыўшы, што з усіх антысамадзяржаўных сіл адштурхоўвае локцямі ды зброяй, пракладаючы сабе дарогу, найбольш ваяўнічае крыло.

## Яшчэ раз пра рэвалюцыі

Падабаецца нам гэта ці не, але яны, расійскія рэвалюцыі, адбыліся. Прычын і ўмоў для іх было шмат. Пра гэта нямала ўжо напісана, нямала яшчэ трэба напісаць па-новаму. У тым ліку і пра славуты «обличительный характер» рускай літаратуры XIX стагоддзя, які дасюль лічыўся перадавым і дэмакратычным (калі нават Талстой і Дастаеўскі не выкрывалі, а перасцерагалі, заклікалі не да разбурэння традыцыйных каштоўнасцей, за што і пры жыцці, і пасля іхняй смерці, мякка кажучы, іх не ўсе разумелі і падтрымлівалі).

Рэвалюцыі абудзілі Беларусь. Ужо не толькі жменька «гарачых галоў», але і шырокія слаі насельнікаў, церпячы вялікія нягоды ад «вышэйшай» палітыкі ўладных свету гэтага, ад развязанай імі першай сусветнай вайны, пачалі разумець: з імі ніхто не лічыцца, калі хочаш жыць паўнацэнна, трэба самім дбаць пра сябе. Якраз у гэтым разуменні — рабочая і сялянская падтрымка руху, які на пачатку стагоддзя пачыналі свядомыя студэнты і інтэлігенты. А ў гэтай падтрымцы — пэўныя канкрэтныя грамадска-палітычныя захады з канкрэтнымі мэтамі і паўнамоцтвамі.

Скліканы ў сакавіку 1917 года з'езд беларускіх дзеячаў — падзея вызначальнага характару, а ўтвораны на з'ездзе Беларускі нацыянальны камітэт — зусім не «нацыяналістычная, рэфармісцка-згодніцкая арганізацыя» (БелСЭ, т. 2, с. 243), а ў ліпені 1917 утвораная на яго аснове Беларуская рада (з кастрычніка Вялікая беларуская рада) — зусім не «арганізацыйны цэнтр беларускай нацыяналістычнай контррэвалюцыі» (там жа, с. 228), урэшце аб'яўленая БНР — зусім не «марыянетачная дзяржава, абвешчаная 25.3.1918 беларускімі бурж. нацыяналістамі з удзелам эсэраў, меншавікоў і інш. згоднікамі як бурж. рэспубліка ва ўмовах акупацыі Беларусі нямецкімі войскамі» (там жа, с. 227). Больш чым відавочна: каб не ўсе гэтыя «нацыяналістычныя», «буржуазныя» захады найбольш свядомых сыноў беларускага народа, дык, будзьме рэалістамі, пазней не было б і гутаркі пра Беларусь Савецкую. Хоць Ленін нямала пісаў пра нацыянальнае пытанне, хоць прызнаваў права народаў на самаазначэнне, у тым ліку і беларускага, але на справе і ён, і яго паплечнікі даваць гэтае права адмаўляліся, а то і больш — выстаўлялі за гэта ворагамі працоўнага народа. Калі і згаджаліся, то толькі ў нялёгкую часіну ды з тактычных меркаванняў. Пазнейшы час гэта засведчыць: у жорнах бальшавіцкага млына пераатруцца і тыя, хто, скажам, утвараў БНР, і тыя, хто ў саюзе з імі выпрошваў і вырываў БССР-марыянетку.

Да гонару, многія беларускія палітыкі і пісьменнікі своечасова, яшчэ ў снежні 1917 года пасля разгону Усебеларускага кангрэсу, а пасля на пачатку 1918 пасля разгону Устаноўчага сходу, распазналі, што стаіць за знешне гуманістычнымі бальшавіцкімі лозунгамі, што стаіць за мэтамі сусветнай рэвалюцыі, якая мела на ўвазе значна большае і жудаснае за ранейшыя мэты Царства Божага. Былі б яны невідушчыя, дык, канечне ж, не раўшалі б свой лёс самі, спадзяваліся б на ласку ўладных свету гэтага. Абвешчаная ў сакавіку 1918 года БНР і тэлеграма германскаму кайзеру з просьбай аб прызнанні — ніякае не здрадніцтва, а змушаны рэалістычны ход. Ленін і партыя, каб павярнуць грамадскую думку ў іншы бок пасля разгону Устаноўчага сходу, каб ажывіць патрыятычныя настроі, спажыць іх і ўтрымаць уладу, лёгка пайшлі на тое, каб уступіць з нямецкім камандаваннем у хаўрус, а пасля справакаваць яго на наступленне, ахвяраваўшы многімі (беларускімі найперш) землямі. У сітуацыі, калі цябе прадалі, няўжо вялікі грэх паклапаціцца самому пра сябе? Ці некаму можна інтрыгаваць, хаўруснічаць, а табе нельга нават уступіць ва ўзаемаадносіны? Што — марней, гінь, але будзь верны толькі бальшавікам? Але чаму? Хто ім даў такое найвышэйшае права? Хрыстос жа дабіваўся любові, сцверджання сваёй веры не насіллем, а перакананнем, добрымі ўчынкамі, любоўю, зусім не баючыся сваіх няўдач!

Як вядома, Берлін асцярожнічаў (з'яўляюцца публікацыі, дзе ёсць звесткі пра тайную змову з бальшавікамі), нічым не падтрымаў БНР. Можа, яшчэ і таму, што віленскія і мінскія беларускія палітычныя сілы не падаліся яму ў паслугачы, а прысутнасць нямецкіх войск намагаліся найперш выкарыстаць у інтарэсах утварэння беларускай дзяржаўнасці. За невялікім выключэннем, Еўропа, свет засталіся глухія да болю, пакут і патрэб нашага народа, аддаючы перавагу вялікай гульні, сваім асабістым інтарэсам.

Тут не можа не ўзнікнуць адно колкае пытанне: ну, добра, устаяла б БНР, развіліся б і замацаваліся сацыялістычныя ідэі не на бальшавіцкай платформе, не на інтэрнацыяналісцкіх настроях, а на нацыянальнай глебе. Як ведаем, апошняе паспрыяла пераўтварыць многія сацыялістычныя тэзісы ў фашызм у Італіі ды ў Германіі, а таксама, кажуць, штурхала да фашысцкасці рэжымы ў даваеннай Польшчы, нават Літве і Латвіі. Дык ці быў магчымы беларускі фашызм, дыктатура, скажам, Луцкевічаў?

Нялёгка адказаць за італьянцаў і немцаў, але мы, здаецца, ніколі не апраўдаем «нацыянальны сацыялізм» Мусаліні і Гітлера; пра санацыю Пілсудскага можам гаварыць інакш, разумеючы яго і заадно

(Працяг на стар. 12).

# ПАСТАВІМСЯ ДА ВОПЫТУ КРЫТЫЧНА

**Штуршком для завочнага «круглага стала» сталі артыкулы Алега Лойкі і аўтара, які падпісаўся імем Юрка Лявончык, у нумары за 20 сакавіка г. г. Хаця гаворка пра сучаснае літаратуразнаўства ў любым выпадку была б своечасовай: вельмі ж прыкметны ўплыў інерцыі на ўсім, што выходзіць з-пад пяра нашых даследчыкаў літаратуры.**

**Сімптаматычна і тое, што на запрашэнне аддзела крытыкі і бібліяграфіі адгукнуліся ў пераважнай большасці маладыя літаратуразнаўцы і крытыкі. З нашага боку таксама быў намер ахапіць філалагічныя кафедры не толькі сталічных інстытутаў, але і абласных цэнтраў, ды ён не спраўдзіўся: актыўнасць праявілі адно навукоўцы з Гомельскай ды Брэсцкай абласцей.**

**А звярнуліся мы да нашых аўтараў з наступнымі пытаннямі:**

Якімі бачыцца вам стан і перспектывы развіцця сучаснай літаратуразнаўчай навукі? Што вас не задавальняе ў ёй сёння, якія з набыткаў варта было б захоўваць і памнажаць?

**Заканчэнне «круглага стала» чытайце ў наступным нумары.**

**Ніна АКСЁНЧЫК**

## НАМ ЁСЦЬ ШТО СКАЗАЦЬ СВЕТУ

Нарэшце вызваленне нашай свядомасці ад камуністычнага дурману і звязанае з гэтым нацыянальнае Адраджэнне дае нам гістарычны шанц глянуць на сябе ў люстэрка агульначалавечых ідэалаў і з іх вышыні аб'ектыўна ацаніць стан нашай літаратуры. Аднак, каб перспектывы літаратуразнаўства былі абнадзейваючымі, мала пераадолець тыя перашкоды, пра якія занепакоена піша А. Лойка, — найперш нам трэба адстаяць свой суверэнітэт. Пагэтаму духоўныя высілкі інтэлігенцыі павінны быць накіраваныя на справу незалежнасці рэспублікі, на актыўны ўдзел у палітычным, культурным жыцці, у ажыццяўленні Закона аб мовах і г. д. Як будзе ісці справа Адраджэння — такім будзе і плён духоўнай культуры. Не трэба самазаспакаення. Нам яшчэ рана прылічаць сябе да цывілізаваных краін, бо калі не зберажом Беларусь, мову — для каго будуць нашы навуковыя разважанні? Хіба што як дадатак да антычнай культуры.

Абнаўляючы літаратуразнаўства ў сучасных варунках адраджэнскага руху, варта ачысціцца ад дагматызму мыслення, бо трэба прызнацца, што мы яшчэ глядзім на свет праз чырвонае шкло, і той «маленькі чалавек», чалавек савецкі, яшчэ доўга будзе сядзець у кожным з нас, аж пакуль мы не ўсвядомім значнасць чалавечай існасці, сваёй унутранай свабоды. Пагэтаму я занепакоена гляджу на магчымасць пустацветных спрэчак, шта могуць распачацца пры разглядзе такіх літаратуразнаўчых праблем, як вобраз станоўчага героя, класавасць, партыйнасць, метад сацыялістычнага рэалізму, тыпізацыя і г. д. Даследчыцкая энергія павінна быць накіравана не на выяўленне нашых ідэйных пазіцый, а на распрацоўку новай метадалогіі і тэорыі — а гэта адна з самых адказных задач. Сусветныя літаратуразнаўчыя школы абапіраюцца на шматлікія філасофскія, эстэтычныя вучэнні, пачынаючы з антычнасці да сучасных, — ідэалістычнай філасофіі, тыпалогіі і структур, тэорый Варынгера, Шапенгауэра, Ясперса, псіхааналітызм Фрэйда, фанаменалагічную тэорыю і г. д. Развіццё нашага літаратуразнаўства будзе залежаць ад дасягненняў нацыянальных філасофіі, эстэтыкі і не эклектычнага, а творчага засваення сусветных літаратуразнаўчых школ. У сілу гістарычных прычын нашаму літаратуразнаўству зноў выпала доля ісці наперадзе філасофіі. Па сённяшні дзень наша навука абапіраецца пакуль што на адзінае вучэнне — марксізм-ленінізм. І адпаведна карыстаецца метадам вульгарнага сацыялагізму. Наколькі энергічна пойдзе ў нас працэс вызвалення навукі з кіпцюроў дадзенай метадалогіі, настолькі хутчэй мы зможам далучыцца да агульначалавечых гуманістычных ідэалаў, якія ў мастацтве ўвасабляюцца ў ідэале эстэтычным. Даследуючы эстэтычныя ідэалы ў беларускім мастацтве, літаратуразнаўства будзе мець справу з фенаменальнай з'явай: як у літаратуры праяўлялася нацыянальная мастацкая свядомасць, што складвалася стагоддзямі, і як адбывалася яе дэфармацыя пад уплывам ідэалагічных установак у метадзе сацрэалізму. Нам трэба вярнуць эстэтычныя крытэрыі ацэнкі мастацкага твора: гарманічнае спалучэнне ў ім агульначалавечай гуманістычнай значнасці і высокую мастацкасць — гэта пралье святло на прычыны пэўнай бязлікасці савецкай беларускай літаратуры: за ідэйным пафасам, трафарэтнымі героямі губляўся рэальны жывы чалавек з яго духоўным быццём, знікаў чалавеказнаўчы сэнс літаратуры. Нежыццёвасць ідэалогіі вяла да ілюстрацыйнасці, абстракцыянізму твораў, закасцянеласці мастацкай формы. Станоўчы герой — кананізаваная ідэя культу гарманічна развітой асобы — па сутнасці была тым, што яшчэ старажытныя грэкі называлі маралістычнай калакагатыяй, а цяпер выглядае як гіперрэалізм. Сёння відавочныя і прагматызм, канструктывізм такой літаратуры — як праяўленне двайной маралі асноватворчасці мастака. І ў беларускай савецкай літаратуры мы маем адметную эстэтычную праяву сусветнай масавай культуры — савецкі кіч. У сувязі з гэтым літаратуразнаўчую зацікаўленасць уяўляе псіхалагічны аспект творчага працэсу ва ўмовах таталітарызму, пры гэтым важна выкарыстаць вопыт сусветных распрацовак праблемы, пачынаючы ад тлумачэнняў Платонам прароцтва паэта ў момант творчасці і асучасненых тэорый інтуітывізму, на што ў нас было ўзведзена табу. Падаўленне волі, свабоды мастака, нават такіх нацыянальных геніяў, як Купала, Колас, прыводзіла да заняпаду мастацкай свядомасці нацыі. А такая свядомасць генетычна ўбірае ў сябе эстэтычны вопыт многіх пакаленняў, пра што сведчыць і наша літаратура, якая за час панавання бальшавіцкага рэжыму не страціла поўнасцю сваё нацыянальнае аблічча. І дзякуючы гэтаму сёння мы не бязродныя, нам ёсць што сказаць свету.

Мы маем высокі інтэлектуальны патэнцыял (Мальдзіс, Калеснік, Адамовіч, Рагуля, Каваленка, Мушынскі, Лойка і інш.). Нашай крытыкай ужо сказана многа слушнага ў галіне тэорыі паскоранага развіцця літаратуры, гістарызму, духоўных маштабаў прозы, спецыфікі лірыкі. Аднак наша крытыка яшчэ хварэе на правінцыялізм, як і мастацкай літаратуры, трэба пазбавіцца сіндрому як бы непаўнацэннасці, сярмяжнасці. Побач з тымі задачамі, якія вылучалі А. Лойка і Ю. Лявончык, нам трэба не баяцца ствараць уласныя літаратуразнаўчыя школы, не азіраючыся на Расію. Пры аналізе дакастрычніцкай паэзіі крытыка па-ранейшаму застаецца ў палоне матэрыялістычнай эстэтыкі Чарнышэўскага, ігнаруючы тыпалагічную блізкасць нашых паэтаў-дэмакратаў і такіх паэтаў-рэвалюцыянераў, як Гейнэ, Веерт, Фрэйміграт і інш. У канцэптуальным плане крытыка падганяе беларускую рэвалюцыйную дэмакратыю пад ідэі бальшавіцкага перавароту. Мала даследаваны ёю асаблівасці дэкадэнцтва ў паэзіі пасля 1905 года, сярэдзіны 20-х і ў паэзіі і прозе 70—80-х гадоў. Цікава прасачыць праяўленне рысаў імажынізму, акмеізму ў стылёвай палітры паэтаў 20-х гадоў (Кляшторны, Жылка, Маракоў) і ў сучаснай паэзіі і прозе (Янішчыц, Барадулін, Дранько-Майсюк, Казько), рысаў імпрэсіянізму ў стылі Зарэцкага, Лынькова, Брыля, сімвалізму ў прозе Быкава, Казько і іншых. Тут даследчыкаў чакаюць цікавыя тыпалагічныя адкрыцці, выхад да філасофіі суб'ектыўнага ідэалізму, эстэтыкі мадэрнізму. Аднак трэба засцерагацца ад спакусы падагнаць літаратуру пад пэўныя эстэтычныя прынцыпы і метады, каб не збіцца на эклектыку і сафізм, не згубіць у сусветным акіяне літаратуры бурштынавыя кроплі нацыянальнай адметнасці.

г. Мазыр.

**Іван АФАНАСЬЕЎ**

## ЭСТЭТЫКА «ЖЫЦЦЯ НААДВАРОТ»

Загадкавая, таямнічая істота — чалавек... Сядзіць сабе ў прыцемку саркафага і разважае пра тэарэтычнае літаратуразнаўства. І самае цікавае, робіць менавіта тое, што і трэба рабіць, калі адлічваеш час па чарнобыльскім гадзінніку. Нябыт таксама мае сваю эстэтыку, якая аднойчы нечакана ўразіла Ю. Каракіна пасля шматгадовай размовы з бессмяротным Ф. Дастаеўскім: быццё ж і пачынаецца тады, калі яму пагражае нябыт. Пачынаецца ўсё: і само жыццё, і яго выратаванне — культура. Адзіны шанц пераадолення смерці для тых, хто абавязаны наведаць гэты свет і пасля нашага жыцця. Мабыць, таму і я гатовы атэставаць сябе ў наспелай дыскусіі пра лёс, шляхі беларускага літаратуразнаўства як чарнобыльскі правінцыял. Дарэчы, без асаблівага хвалявання, бо хто наважыцца зараз назваць правінцыяй Чарнобыль?

Пра стан і перспектывы сённяшняга літаратуразнаўства можна разважаць бясконца. Мне хацелася б засяродзіцца на тым, што вызначае (і будзе вызначаць) агульную перадумову гэтай навукі ў новай Беларусі. Высокая тэорыя — гэта зайздросна, гэта неабходна, але як адказаць на такое вось пытанне, якое не так даўно давялося пачуць ад аднаго ўдумлівага чалавека: Чарнобыль як тэма мастацтва, літаратуры, увогуле культуры ніколі не будзе рэалізаваны, бо самі чарнобыльцы стаміліся ад сапраўднай бяды, а суседзі блізкага і далёкага чарнобыльскага замежжа проста не зразумеюць нас так, як разумеем сябе мы, жывучы менавіта тут. Узважце: не будзе рэалізавана тое, што для нас ужо стала нацыянальным лёсам, які паяднаў непарушнай повяззю і шмат у чым вырашальнае для беларусаў ваеннае мінулае, і грунтоўнасць іх адвечнага сялянскага побыту. Інакш кажучы — усё, што выдатна ўвасобілася ў беларускай літаратуры і што мы, так бы мовіць, павінны тэарэтычна асэнсаваць. Хіба не прыхаванае пачуццё гэтай пагрозы вымушае нашых выдаўцоў і навукоўцаў досыць скептычна ставіцца да чарнобыльскай плыні: маўляў, пакуль няма пра што па-сапраўднаму гаварыць. А ці будзе заўтра?

Мне здаецца, карысна было б задумацца над вельмі паказальным фактам. Першыя буйныя мастацкія творы (не публіцыстычныя, не дакументальныя), у якіх адбіўся чарнобыльскі светапогляд, — «Апошняя пастараль» А. Адамовіча і «Уцякач» Э. Скобелева — былі напісаны ў жанрах, што пэўным чынам сімвалізуюць завяршэнне нейкага цыкла ў развіцці сталай літаратуры (антыутопія ў першым выпадку, асветніцка-маралізатарскі раман — у другім, звычайна звязаны з адыходам цэлай еўрапейскай эпохі). Літаратура, адухоўленая «жыццём наадварот». Яна пакуль трымаецца клопатам адзінак, асоб, але ці забяспечана ўсім ладам нашага самаадчування — і мастацкага, і навуковага? Што здарыцца, калі заканамернасць гэтага існавання «наадварот» пацвердзіцца і канец стане пачаткам (зрэшты, у абсалютнай адпаведнасці з самім Чарнобылем)? У лепшым выніку народзіцца невядомы яшчэ варыянт «мастацтва для мастацтва», і турботаю эліты будзе не эстэтычная гульня ці самакаштоўнасць прыгожага пісьменства менавіта як **прыгожага**, а беларускі боль. Аднак з гэтай прычыны мы як нацыя, што імкнецца да свайго ўсведамлення, не перастанем існаваць у нябачным трагічным вымярэнні. Можа, гэта і акрэсліць тэарэтычныя прыярытэты беларускага літаратуразнаўства? Ва ўсялякім разе, пачынаць трэба ўжо сёння, нягледзячы на тыя цяжкасці, перашкоды, якія будуць замінаць нашаму паскоранаму вучнёўству ў заходніх калег. Прынамсі, палітычная крытыка (з пераліку шаноўнага А. Лойкі) магчымая тады, калі ёсць сама палітыка, а не нашыя экспромты і хістанні. Таксама і асаблівасці фарматворчасці зацікавяць пры ўмове ўсталяванай сутнасці больш надзейнага грунту пад нагамі літаратуразнаўцаў. Заўважце: росквіт высокай літаратурнай навукі непасрэдна залежыць ад стабільнасці грамадства, пэўнасці нацыянальнага і дзяржаўнага твару. Нам жа наканавана прайсці да тэорыі эксперыментальным шляхам і ў непазбежным спалучэнні-сутыкненні тэорыі і практыкі ізноў адчуць чарнобыльскі ўціск.

На даволі заблытаных пуцявінах сучаснага нацыянальнага Адраджэння (ці не таму, што яно адразу было заручана з палітычнай злобай моманту — гісторыя не пакінула альтэрнатывы) літаратура з'яўляецца найважнейшым фактарам нацыянальнай свядомасці, бо захоўвае для нас магчымасць дыялога і, калі хочаце, новага перажывання літаратуры ў тэарэтычнай, навуковай свядомасці. Надзвычай плённымі ўяўляюцца спробы новага прачытання класікі. Яны не толькі хутка высветляць жудасную наканаванасць Чарнобыля ў пакутлівым Беларускім Шляху, але і нададуць навуцы аб літаратуры тую змястоўнасць, якая не бядней за існаванне на сумежжы іншых навук (слушная парада Ю. Лявончыка). Нацыянальны светапогляд, выпрабаваны дзейснай сучаснасцю, кансалідуе на першым, літаратуразнаўчым, узроўні **беларусістыку.** А хіба не ўсебаковаму вывучэнню беларуса спрыяцьме і пажаданае сумежжа дысцыплін?

г. Гомель.

**Алесь БЕЛЬСКІ**

## КЛАПАЦІЦЦА ПРА МАЛАДУЮ РУНЬ

Беларускае літаратуразнаўства, бясспрэчна, доўгія гады было дагматычнае, кан'юнктурнае, уніфікаванае. Панаванне вульгарнай тэорыі сацыялістычнага рэалізму, адзінай камуністычнай ідэалогіі прывяло нашу навуку пра літаратуру да адлучэння ад магістральных шляхоў развіцця еўрапейскага і сусветнага літаратуразнаўства. Не быць устурбаваным станам і лёсам нацыянальнай літаратуразнаўчае навукі — значыць працягваць таптацца на месцы, асуджаць яе на далейшы інфантылізм і правінцыйнасць.

Безумоўна, мы не павінны адкідаць той станоўчы вопыт, які назапасіла наша літаратуразнаўства ў савецкі час. Праўда, ад многіх даследаванняў у выніку крытычнага перагляду, пераацэнкі застаецца невялікі канспект тэзісаў, блакнот ці нават старонкі і радкі рацыянальных думак, высноў, назіранняў. Аднак не будзем забываць, што ў мінулым мы маем працы, якія вылучаюцца значным навуковым узроўнем даследавання, з імі, як кажуць, не сорамна і на людзі выйсці, каб паказаць, чаго мы вартыя. У галіне тэорыі літаратуры — гэта працы І. Ралько, В. Рагойшы, М. Грынчыка, В. Жураўлёва, І. Шпакоўскага. А хіба на навуковую канцэптуальнасць, уласную філасофію мы абдзелены? Паўнаважкае слова пакінулі пасля сябе ў 20-я гады такія ўдумлівыя даследчыкі, як І. Замоцін, Я. Барычэўскі, А. Вазнясенскі, У. Дзяржынскі і інш. Няўжо не павінны асвятляць нам шлях эстэтычныя арыенціры і далягляды Р. Бярозкіна і В. Бечыка? Трывалы навуковы грунт, эстэтычную і тэарэтычную вышыню аналізу маюць асобныя даследаванні С. Александровіча, А. Адамовіча, В. Каваленкі, М. Тычыны, М. Мушынскага, Д. Бугаёва, А. Лойкі, А. Мальдзіса, У. Конана, маладзейшых навукоўцаў, сярод якіх хацелася б згадаць хаця б імя заўчасна памерлай Т. Чабан.

Але ж наша літаратуразнаўства непараўнальна больш страціла, чым набыло, у цэлым яно эвалюцыяніравала ў адным кірунку, як правіла, да аднастайнасці поглядаў, падыходаў, крытэрыяў. Гісторыя літаратуры ствараласа паводле нарматываў, догмаў, схемаў, ад якіх мы не можам пазбавіцца і па сённяшні дзень. Як не стае нам аб'ектыўнай праўдзівай ацэнкі мінулага літаратуры, літаратурнага працэсу, творчасці пісьменнікаў, у тым ліку і народных. Ці асэнсавалі мы,

скажам, як належыць феномен Броўкі савецкага часу? А Купала і Колас? Напэўна, трэба казаць, што таталітарная сістэма ўгатавала ім як творцам пакутны крыж, бо ўсім сваім духам, мастацкімі здзяйсненнямі і вытокамі яны засталіся ў дарэвалюцыйнай адраджэнскай пары. Жыццё, творчасць Купалы і Коласа савецкага часу можна паяднаць злучнікам «і», але, як нам думаецца, варта зірнуць на іхні шлях гэтага перыяду ў яго індывідуальным змесце. Як павінны мы бачыць агульнае і адрознае ў лёсах Ц. Гартнага, Я. Пушчы, У. Дубоўкі, К. Чорнага, М. Зарэцкага і інш. Так, няма неабходнасці асуджаць нашых народных і ненародных, але імкнуцца зразумець, разабрацца ў тагачаснай складанай гісторыі жыцця грамадства і літаратуры патрэбна, каб расставіць пэўныя акцэнты. Бо сярод пісьменнікаў у 30-я ды і пазнейшыя часы былі і ахвяры, і служкі (няхай нават і не свядома), і заложнікі сістэмы, і тыя, хто не скарыўся ёй. А як быць з канфармізмам, кан'юнктурай? Пытанні можна доўжыць. Таму бягучы, надзённы клопат літаратуразнаўства — паболей дыскусій, спрэчак, меркаванняў, пошукаў, у якіх народзіцца ісціна.

Што ўяўляецца самым актуальным, дык гэта распрацоўка тэорыі, метадалогіі літаратуразнаўчага даследавання. Прац у гэтым кірунку ў нас амаль няма. Не абысціся тут, вядома, без «чужога» вопыту — дасягненняў замежнага літаратуразнаўства. Шлях шматстайнага, рознанакірункавага развіцця літаратуразнаўства таксама патрэбны як хлеб, як вада. Усё вартае, прыдатнае неабходна браць, засвойваць нашай навуцы, не забываючы на прымат нацыянальнага. Інача́й — ёсць небяспека літаратуразнаўчай міфалогіі. Ды і некаторыя навукова-тэарэтычныя канцэпцыі, падыходы, спосабы даследавання можна ўвасобіць, відаць, пры дастатковай шматграннасці развіцця самога мастацтва слова, яго фармальна-стылёвых дасягненняў. Савецкая літаратура, як і савецкае літаратуразнаўства, нарадзілі шмат аморфнага, штучнага, несапраўднага. Але найперш класічны падмурак літаратуры, багацце і ўзровень яе мастацкасці — зарука таго, што ўзвышаць і ўгрунтоўваць тэорыю ёсць на чым.

Нацыянальнае літаратуразнаўства павінна таксама шырока і глыбока інтэгравацца ў іншыя навукі, найперш тыя, якія звязаны літаратурай як аб'ектам пазнання і даследавання: псіхалогія, сацыялогія, эстэтыка, псіхалінгвістыка і інш. Неабходна скарыстоўваць і дасягненні дакладных навук, найперш — некаторыя метады і прыёмы, звязаныя з ЭВМ. Наспеў час узяцца за працу па стварэнні калектыўных, комплексных даследаванняў, да якіх далучыліся б навукоўцы розных спецыяльнасцяў. Матэрыял для такіх супольных інтарэсаў ёсць — гэта фальклор, творчасць нашых класікаў, з сучасных пісьменнікаў — У. Караткевіча, А. Разанава... Гэткі накірунак, як думаецца, будзе ўзбагачаць філалагічны інструментарый, навуковы актыў нашае навукі.

Асабіста мне думаецца, што інтэнсіўны шлях развіцця, удасканалення і інтэграцыі немажлівы без кансалідацыі сілаў. Школы, групы літаратуразнаўцаў, на чале якіх стануць вопытныя, арыгінальныя даследчыкі, змогуць стварыць мазгавыя цэнтры сённяшняй і заўтрашняй навукі. Новы ўзровень, паскаральны працэс развіцця не спраўдзяцца без цесных узаемаадносінаў «настаўнік — вучань», без стаўкі на творчую перспектыўную моладзь, індывідуальнасць, асобу даследчыка. Хочацца верыць, што «паўтарыцельны курс» супольна, разам мы зможам прайсці хутка; і не проста пасля канстатаваць, што ў нас ёсць і першае, і другое, і трэцяе, а выйсці на новыя навуковыя межы, уключыцца ў сілавое поле сусветнай літаратуразнаўчай навукі і эстэтыкі. Задача — надзённая, маштабная і, мусіць, разлічана не на адно пакаленне даследчыкаў. Але спадзяванні трэба ўскладваць ужо на сённяшніх маладых, іх энергію і інтэлект, на тое, што выбраныя імі тэарэтыка-навуковыя, эстэтычныя імператывы будуць узбагачаць і ўзвышаць статус нацыянальнага літаратуразнаўства. Навуковы малады патэнцыял як быццам у нас ёсць, пра што сведчаць цікавыя працы другой паловы 80-х — пачатку 90-х гг. Л. Корань, Г. Праневіча, А. Бяляцкага, І. Афанасьева, П. Васючэнкі, А. Мельнікава, С. Кавалёва, В. Таранеўскага, М. Хаўстовіча, Ю. Гарбінскага, М. Бараноўскай, кагорты аспірантаў нашых навуковых устаноў і інш. Паспрыяе гэтаму, думаецца, і падрыхтоўка ў сценах ВНУ магістраў, а гэта — дзесяткі маладых даследчыкаў, сярод якіх акажуцца, будзем спадзявацца, лепшыя з лепшых.

г. Мінск.

Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# НЕКАЛЬКІ БЯГУЧЫХ ДУМАК

Стан развіцця сучаснай беларускай літаратуразнаўчай навукі не задавальняе з той прычыны, што яна пакуль што не стала ўпоравень з тымі нацыянальнымі задачамі, якія вырашае Беларусь у сваім імкненні да рэальнай незалежнасці і самастойнасці. У нас мала новых прац абагульняючага характару па гісторыі і тэорыі роднай літаратуры, яе нацыянальнай своеасаблівасці, не хапае акадэмічных выданняў класікаў ды і сама метадалогія, трэба сказаць, у заняпадзе. На гэта ў многім справядліва наракаюць у сваіх лімаўскіх артыкулах Алег Лойка і прыпрэжаны да яго невядомы аўтар, які падпісаў сваё выступленне псеўданімам Юрка Лявончык. Спецыяльна гаварыць пра артыкул Ю. Лявончыка «Правінцыя» не буду, паколькі гэта фактычна ананімнае выступленне. Зазначу толькі, што ацэначнае паняцце «правінцыя» дрэнна стасуецца да размовы пра з'явы духоўнага парадку. Папракаючы каго-небудзь у правінцыялізме, можаш, чаго добрага, і сам на гэтым пакаўзнуцца — што і адбылося, мне здаецца, з Ю. Лявончыкам.

Артыкул А. Лойкі «З настальгіяй па тэорыі» — сур'ёзны. У ім з цалкам зразуметай заклапочанасцю ставіцца пытанне пра неабходнасць канцэптуальнага пераасэнсавання беларускай літаратуры XX ст.

Згодзен! Дадам толькі, што, як на маю думку, у гэтым маюць немалую патрэбу і ўсе папярэднія перыяды яе гісторыі, на асвятленне якіх не самым лепшым чынам паўплывала тая крытыкуемая А. Лойкам залішне і аднабакова палітызаваная метадалагічная канцэпцыя, якую спавядала і якою дыхала ўсё савецкае літаратуразнаўства (ды каб толькі адно літаратуразнаўства!). Нам замінала філасофска-метадалагічная недастатковасць, няўвага да эстэтычнага пачатку, спрашчэнне, эклектыка, выпукленне класавасці, псеўданавуковасць. Сёння, здаецца, гэта прызнаецца калі не ўсімі, дык амаль усімі, за рэдкім выключэннем. Ад гэтых недахопаў трэба як найхутчэй вызваляцца.

Асабліва ўважліва прачытаў я тую частку яго артыкула, дзе гаворка заходзіць пра недахопы і ўпушчэнне купалазнаўства і коласазнаўства. Справа ў тым, што я пішу раздзел пра Янку Купалу для «Гісторыі беларускай літаратуры XX ст.», работа над якой актыўна вядзецца ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы, і вельмі рады быў сустрэць у аўтара думкі, якія таксама падзяляю. Шаноўны прафесар, ветэран айчыннага літаратуразнаўства, як гэта і трэба было ад яго чакаць, выступае за шырокі і аналітычны падыход да спадчыны Я. Купалы, Я. Коласа і іншых беларускіх пісьменнікаў XX ст. Аднак, на жаль, памеры артыкула не дазволілі, відаць, як след разгарнуць магчымасці, і ён абмежаваўся па сутнасці сацыяльна-рэвалюцыянарным аспектам іх творчасці, паставіўшы ў цэнтр увагі адносіны гэтых мастакоў да рэвалюцыі і сацыялістычнай явы і пайшоўшы тым самым (пры надзвычай цікавых назіраннях і вывадах) як бы ў кірунку традыцыйнага рэчышча. Што ж, у дачыненні да Купалы і Коласа — песняроў нашага нацыянальнага адраджэння і вызвалення — гэта не другарадны аспект, але, як на сённяшні погляд, яўна недастатковы і, зразумела, не вычарпальны. Наша літаратура — з усімі сваімі моцнымі і слабейшымі мясцінамі — безумоўна, больш шматгранная, багатая і разнастайная, чым той адбітак, які яна атрымала ў сучасным літаратуразнаўстве і крытыцы. Гэта я гавару ўжо па-за сувяззю з артыкулам А. Лойкі.

Ёсць вострая патрэба зразумець гэту супольнасць, прачытаць беларускую літаратуру па-новаму, пад кутом гледжання нацыянальнай і агульначалавечай праблематыкі ў іх арганічным адзінстве. Для гэтага неабходна адпаведная тэарэтыка-метадалагічная база. Дзе, адкуль іх узяць — праблематыку і метадалогію? Іх трэба выпрацаваць, а можа, нават і выпакутаваць.

Гэта пытанне закранае і А. Лойка, які бачыць паратунак у тых мадэлях, метадах і спосабах даследавання (частку з іх ён пералічвае), што знаходзяцца на ўзбраенні еўрапейскага і амерыканскага літаратуразнаўства (дарэчы, большасць з іх узнікла ў Расіі). Трэба, інакш кажучы, ісці да іх на вывучку згодна з законам «паўтарыцельнага курсу», які быццам бы дзейнічае як у літаратуры, так і ў літаратуразнаўстве. «Калі мы змаглі прайсці паскорана «паўтарыцельны курс», пра які пісаў Максім Багдановіч,— разважае А. Лойка,— то няўжо мы не адолеем гэтага новага «паўтарыцельнага курсу», які нашай нацыянальнай навуцы аб літаратуры канец XX стагоддзя прыўрочыў?»

Тут не ўсё так проста, як здавалася б на першы погляд. Вядома, ёсць аб'ектыўныя заканамернасці (стадыі) сусветнага мастацка-эстэтычнага развіцця — асветніцтва, сентыменталізм, рамантызм і г. д., якія ў той ці іншай ступені праявіліся і ў развіцці беларускай літаратуры, але ж яна пры гэтым нікога не паўтарала, а нараджала свае нацыянальныя школы рамантызму, рэалізму, натуралізму і інш.

Вазьміце, напрыклад, купалаўскі рамантызм і рамантызм Пушкіна ці, што яшчэ далей,— Гофмана.

Дадаць трэба яшчэ і тое, што сентыменталізм, рамантызм, рэалізм, натуралізм, пра якія гаварыў М. Багдановіч, і, з другога боку, структуралізм, неапрагматызм, герменеўтыка, фемінізм і інш., — пра што гаворым мы, — з'явы хоць з аднаго агароду, але ж, думаецца, розныя, і арыентацыя на «паўтарыцельны курс» у гэтай сферы не выклікае энтузіязму.

Вядома, вопыт ёсць вопыт, ім трэба даражыць, яго можна выкарыстоўваць, але ставіцца да яго — крытычна, адным толькі перайманнем многага не дасягнеш. Варта ўсё ж такі памятаць пра сваё. Так, тая наша старая метадалогія была празмерна запалітызаваная, я б нават сказаў — рытарычна-запалітызаваная: замест таго, каб арыентаваць даследчыка на самастойнасць і ініцыятыву, яна, як правіла, прапаноўвала гатовыя адказы, схемы, мадэлі, што для нас сёння непрымальна.

Аднак было там, апроч паловы, і рацыянальнае зерне: метад гістарызму, які, я лічу, можа перасцерагчы нас ад суб'ектывізму і які ні ў якім выпадку адкідаць нельга. Далей. Даследчыку па-ранейшаму патрэбен дасканалы інструментарый для грунтоўнага сацыялагічнага аналізу. Вядома, пры адной умове: каб ён не забываў, што мае справу з творам мастацтва. Голы сацыялагічны аналіз (а такое сустракаецца), без эстэтычнага, мала чаго варты.

г. Мінск.

Сяргей ДУБАВЕЦ

# КАНЕЦ «ШКОЛЫ»

Артыкул Алега Лойкі «З настальгіяй па тэорыі» — гэта праграмны тастамент «школы» — адзінай у беларускім літаратуразнаўстве апошніх дзесяцігоддзяў і адзіна магчымай, — якую сёння ўжо нічога не затрымлівае ў жыцці. І не была б яна **адзінай,** калі б усё, нават жыццё, не запавядала сабе. Але рэч у тым, што «школа» перастала быць **адзіна магчымай.**

Калі А. Лойка адмаўляе сацыялістычны рэалізм — гэта «школа» адмаўляе сябе. Калі А. Лойка ўшчэнт разбівае вульгарны сацыялагізм — гэта «школа» сварыцца на сваю сутнасць.

Галоўнае пытанне «школы» — ці быў Купала песняром Кастрычніка? — не ёсць пытаннем эстэтыкі, як і сама «школа» не ёсць школай уласна літаратуразнаўства. Быў ці не быў — ад гэтага Купалы не пабольшала і не паменшала. Прыняў ці не прыняў Купала ідэі бальшавізму — гэта істотна толькі для самога бальшавізму і ягонага «літаратуразнаўства». Калі сітуацыя вызначала для Паэта тэмы, дык ні яна, ні яе тэмы не вызначалі Паэта.

Галоўнае пытанне «школы» выцякае з яе галоўнай задачы — цалкам вульгарна сацыялагічнай — самаапраўдання ў вачах улады. Таму і галоўны метад «школы» — ганьбаванне класіка за ўласныя грахі і апраўданне класіка ва ўласных грахах. Купала ў А. Лойкі — дэмагог, але дэмагог-ахвяра. Па інерцыі ўсё зводзіцца да банальнага фізічнага выжывання любым коштам. І гэта — самая сутнасць вульгарнага сацыялагізму (з яго «мы універсітэтаў не скончалі»), у палон якога на Беларусі не трапіў ніводзін талент, бо вытыркаўся з агульнае лініі, нават калі пісаў аб Сталіне-сейбіту.

Купала не быў ні дэмагогам, ні ахвярай. Ён быў паэтам, мова якога зведзена да рэаліяў найніжэйшага сацыяльнага слою. І радкі «Я мужык беларус, пан сахі і касы» трэба чытаць не літаральна, а па гучанні, прымаючы гэта як метафару нацыянальнай культуры.

«Купала і Колас не вінаватыя, што перамог сталінізм»,— піша А. Лойка, а я працягваю гэтую думку, толькі ўжо не ў ідэалагічным, а ў літаратуразнаўчым кантэксце: як не былі б вінаватыя і тады, калі б ён не перамог...

Адсюль відаць, што «школа» не мае ніякага дачынення да літаратуразнаўства, а яе высновы — абсурдныя для эстэтыкі —прадыктаваныя палітычнай сітуацыяй. І рэч тут не ў прыстасаванстве, а ў прыродзе «школы», у непарыўным адзінстве з адзіна магчымай лініяй, з курсам, які заяўлены на сёння. Дзвюх думак для «школы» быць не можа. Сёння адна, заўтра другая. Хвалячы Сталіна, лаючы Сталіна, хвалячы Хрушчова, лаючы Хрушчова, хвалячы Брэжнева, лаючы Брэжнева, «школа» застаецца абсалютна шчырай, бо асобаў у ёй замяняе курс. Толькі пры чым тут літаратура?..

На заканчэнне А. Лойка заклікае рэабілітаваць форму. Пра змест не гаворыцца нічога. Але побач з гэтым «рэабілітаваць» традыцыйна прапануецца рэпрэсіраваць — «шырспажыў» і поп-арт. Мабыць, дзеля таго, каб заўтра таксама было што рэабілітоўваць. Маскультура — ці не важнейшы складнік нацыянальнае культуры. Яна можа развівацца толькі ва ўмовах нацыянальнае дзяржавы, патрабуе вялікіх сродкаў і прафесіяналаў свае справы. Сёння на Беларусі ўсяго гэтага яшчэ няма, але калі ўсё гэта з'явіцца, тады і прыйдзе час «рэабілітацыі».

Магу згадзіцца з тым, што напісаў суседні з А. Лойкам аўтар, за выключэннем аднаго. Любы з заяўленых Ю. Лявончыкам артыкулаў (якіх няма і якія патрэбныя) даў бы літаратуразнаўству болей, чым гэты. Задачы патрэбныя «школе»,астатнім патрэбныя творы.

Цяпер пра літаратуразнаўства. Яно пачынаецца з літаратурнага працэсу, а літаратурны працэс — з рэцэнзій, а рэцэнзіі — з твораў. Апошнім часам жанр рэцэнзіі зусім заняпаў у беларускіх выданнях. На ім эканомяць, ім пагарджаюць, а ён сёння, магчыма, самы галоўны. Без яго разбураецца працэс.

Універсітэт — тая школа, дзе «школа» выступае без двукоссяў—за апошнія пяць гадоў не выпусціў ніводнага больш-менш заўважнага крытыка ці літаратуразнаўцу. Чым яны там усе займаюцца — невядома. Мабыць, набіраюцца адвагі, каб Купалу і Коласа назваць дэмагогамі. Вось ужо для чаго сапраўды «універсітэтаў скончаць» не трэба.

А рэч у тым, што за ўвесь час існавання «школы» ўсё лепшае, што выходзіла з яе, выходзіла насуперак ёй. А цяпер, калі «школа» страціла сваю манаполію, калі нацыянальная ідэя ўзаконеная, — няма падпольшчыкаў і «полу» таксама няма.

Канец «школы», які «знаменаваў» сваім артыкулам А. Лойка, станецца пачаткам творцаў. Адзіны (немалы) здабытак «школы»— фактаграфія. Толькі прадумванне тых фактаў нацыянальнай літаратурнай гісторыі, што сабраныя ў шматлікіх гісторыях прыватнага і агульнага характару, абяцае Беларусі плённае і адмысловае літаратуразнаўства.

г. Вільня.



Фота А. МАЦЮША.

польскія, якіх ніхто не браў, бо каштавалі — ого! — аж пяцьдзесят рублікаў!..

### IV.

Увечары сабраўся сход. Далі слова Кірэвічу. Ён стаў за трыбуну і доўга маўчаў, гледзячы на поўную залу людзей.

— Я цяпер як чалавек з іншай планеты, — сказаў ён, — якому трэба расказваць пра ўсё адразу. Ці шмат бы вы зразумелі? На кожнае маё слова трэба дзесяць адступленняў і тлумачэнняў. А галоўнае, я ніяк не магу пачаць, бо проста агламошаны, галава плыве — як вы ўмудрыліся так адстаць ад усіх людзей?

Устаў з першага раду гладкі мужчына ў новай куфайцы, з чубам, як у кубанскага казака.

— Я Навадумскі, — сказаў ён. — Гэта я падаў сігнал у рэдакцыю. Ты нам, сапраўды, чалавеча, многа не гавары, мы і так затурканыя... Скажы проста, на фактах — у чым мы адсталі?

— Добра, на фактах. Давайце з простага, што мне адразу ў галаву прыйшло... Вось хто, напрыклад, ведае, што такое талоны, купоны і візіткі? Падыміце рукі. Ніхто. Вось бачыце. А гэта такое, што калі штосьці купляеш, трэба, акрамя грошай, даваць купоны і выразаць талоны. Ну, і візітка, само сабою...

— Хітра,—сказалі ў зале.

— Так хутчэй ім, відаць...

— Хутчэй.., —пасміхнуўся Кірэвіч. — Вось лічыце: так адзін прадавец, а так трэба сама мала тры. Чарга, крыкі, нервы... Але гэта доўга расказваць, і ўсё роўна не зразумееце. Што яшчэ... Ведаеце, што такое інверсія, канверсія, дэвальвацыя?.. Праўда, гэтага я і сам не ведаю...

Падняўся зноў Навадумскі:

— Такое да нас, чалавеча, і праўда не дойдзе... Ты лепш скажы — цяпер там у вас працуюць ці не? Ці ўсё машыны пазамянялі?

— Ну як жа, машыны... І тыя, што былі, нікуды не варты. Дый каму гэта трэба, мяняць? Цяпер увогуле працаваць нявыгадна. Будзеш працаваць, дык ногі працягнеш... Цяпер так, — ажывіўся Кірэвіч, —скажам, купляю я ў вас тут зубную пасту па сорак капеек, вязу да нас і прадаю па сорак рублёў. Бізнес! Альбо, сама лепш, бяру чужую кніжку, не нашу, вядома, выдаю яе і ўсе грошы забіраю сабе... Праўда, гэта цяжэй — паперы няма. Ды і рэкет... А ўвогуле, цяпер сто, тысяча варыянтаў жыць не працуючы!

На журналіста найшло натхненне.

— Можна перапрадаваць, можна фарцаваць, можна...

— А Божа, што ён кажа.., — уздыхнуў нехта ў зале.

— Кажу ж, не дойдзе да вас!

— Можа, у вас усяго хапае, раз працаваць не трэба? — спытаў Навадумскі.

— Ну як жа, хапае.., — усміхнуўся Кірэвіч. — Лягчэй сказаць, што ёсць... Не сёе-тое, вядома, ёсць, але так ёсць, як быццам няма. Як вам растлумачыць... Тое, што ёсць, таго не дужа купіш, а што купіў бы, таго няма...

— Добры чалавек, — сказалі з залы, —ты нам выбачай, але мы слухаем, слухаем і ніяк не даходзіць. Калі ўсё так, як ты кажаш, дык нашто вам гэта? Нашто вам трэба былі перамены?

— Гм, нашто перамены... Вядома, каб лягчэй жыць, лепш.

— Лепш — гэта як?

— Ну, калі сёе-тое будзе... І больш-менш танна...

— Як у нас цяпер?

— Ну, хоць бы як у вас цяпер...

— І калі гэта ў вас будзе?

— Абяцаюць гадоў праз дзесяць, можа, дваццаць...

— Пастой, чалавеча, — сказаў голас. — Значыць, вы жылі як мы цяпер жывём, правільна? Тады захацелі ўсё перамяніць, заблыталіся, нарабілі заместа аднаго прадаўца тры, улезлі як жукі ў г..., — і ўсё для таго, каб праз дзесяць-дваццаць гадоў жыць як і жылі? Як мы і цяпер жывём? Так выходзіць?

Кірэвіч развёў рукі.

— Так выходзіць, — сказаў ён.

### V.

Кадол вёў журналіста да сябе начаваць.

— Зараз мы з вамі беленькай, — весела гаварыў ён, — ды пад свяжынку, ды цыбулі ў сале насмажым, ды паллём зверху... А? А запіваць будзем расолам з памідораў...

Журналіст раптам спыніўся і схапіў яго за рукаў:

— Вось што — жывіце, як і жылі! Нікому нічога не скажу.

— Міл чалавек, — засмяяўся Кадол,— наадварот — скажы! Усё адно рана ці позна пранюхаюць і прымусяць перабудавацца! Так што гавары, а яшчэ лепш — напішы. Напішы, як ёсць, як сам пра гэта думаеш. Напішаш?

. . . . . . . . . . . . .

Напісаў.

# СМЫЛІЦЬ ДУША...

Выпрабаванне на стойкасць, барацьба за выжыванне прэсы працягваецца. Зведваюць гэта і літаратурна-мастацкія часопісы. Калі раней «Нёман» першым прыходзіў да чытача, дык цяпер, у сярэдзіне мая, няма яшчэ яго красавіцкага нумара. «Маладосці» трошкі больш пашанцавала: днямі прыйшла да чытача красавіцкая кніжка. Дык мо з «Маладосці» і пачнём?

Бадай, як ніколі багата тут апавяданняў маладых аўтараў — творы А. Бадака (раней выступаў у друку як паэт і крытык), У. Сіўчыкава, У. Дуктава. Не абыдзены ўвагай і старэйшыя — змешчана аповесць Л. Калодзежнага «Баян» і апавяданні К. Цвіркі. Канечне, усё гэта можна вытлумачыць і выпадковасцю, але, можа, прычына такой увагі да маладых у тым, што зараз у часопісе «загадвае» літаратурай малады пісьменнік А. Казлоў? Ды, зрэшты, гэта, мусіць, не так і важна, хто «загадвае» і як. Галоўнае — маладосцеўскія апавяданні — чытаюцца. І не толькі маладзейшых аўтараў (тут я найперш вылучыў бы творы У. Дуктава), а і К. Цвіркі. Маладзейшыя, здаецца, смялей бяруцца за новыя, некранутыя папярэднікамі тэмы, хаця той жа У. Дуктаў не абыходзіць і традыцыйных матываў.

Змястоўны і паэтычны сшытак «Маладосці». Па праву старэйшага рэй вядзе П. Макаль. Вершы народжаны, скажам так, жаданнем аўтара і яго лірычнага героя разабрацца ў нашым хуткаплынным і такім складаным часе, знайсці адказ на пытанні: хто мы? да чаго імкнёмся? Нялёгка даць адказ на іх нават такому вопытнаму і таленавітаму паэту, як П. Макаль. Сапраўды:

У нябачныя далі
Да вярхоў падаўся ніз:
Пагулялі,
Пагулялі,
Пагулялі ў камунізм...
У душы пякуць асколкі
Непазбыўнага агню,
І ніхто не знае, колькі
Заплацілі за гульню.
Руль яшчэ трымаюць рукі,
Хоць і грымнула аўто.
Зразумеюць толькі ўнукі,
Хто прайграў і выграў хто...

(«Пагулялі»).

Маладосцеўская паэзія — гэта яшчэ і творы В. Аксак. А. Пісарыка, Я. Хвалея, А. Бярозкі. Апошні, дзякуючы А. Беламу, вернуты з небыцця. Талент, які шмат абяцаў... Прынамсі, пра яго ў свой час пісаў Максім Танк: «...У рэдакцыі «Калоссе» Я. Шуткевіч паказаў мне некалькі вершаў А. Бярозкі. Мне здаецца, з яго вырас бы цікавы і сур'ёзны паэт, калі б мог вызваліцца з-пад апекі сваіх духоўных айцоў...» Магчыма, і вырас бы. Але спрацавала іншая «апека». Пасля верасня 1939 года А. Бярозкам, які жыў у Заходняй Беларусі (нарадзіўся на тэрыторыі цяперашняга Ляхавіцкага раёна), зацікавіліся органы НКУС. Пасля гэтага пра яго ніхто нічога не чуў. Магчыма, парыць А. Бярозка свае косці ў Курапатах.

Яшчэ адна публікацыя, што прыадкрывае малавядомыя старонкі літаратуры — Б. Сачанка прапанаваў успаміны Я. Кіпеля «Апошнія дні Уладзіміра Жылкі» («Беларуская моладзь», 1962, № 13). Тут жа — здымак паэта з яго жонкай, аб'ектыў зазняў іх падчас знаходжання ў Ялце ў 1930 годзе. Маладыя, адухоўленыя твары, спадзяванне на шчаслівую будучыню і... Але пра гэта — ва ўспамінах Я. Кіпеля.

Увогуле, у гэтым нумары «Маладосці» шмат матэрыялаў, якія з'яўляюцца свайго роду візітнай карткай. Г. Багданава знаёміць з мастаком В. Барабанцавым «На мяжы бязлюддзя» (прадстаўлены рэпрадукцыі яго лепшых работ на чатырох старонках вокладкі і на ўклейцы). Артыкул В. Мартыненкі гаворыць сам за сябе — «Барды». Л. Салодкіна («Галоўны стан — палёт») расказвае пра маладых скульптараў.

Праўда, калі чытаў В. Мартыненку, узнікла ў мяне адно маленькае «але». Добра, што ёсць нацыянальныя барды, што гучаць беларускія песні, прапагандуюцца ідэі нацыянальнага Адраджэння. Але, будзем справядлівымі, ці заўсёды вершы, пакладзеныя на музыку, — гэта паэзія? Выключэнне — С. Сокалаў-Воюш. У іншых жа ёсць, прабачце, і кан'юнктура, хоць і з нацыянальным зместам. Але ж мастацтва ёсць мастацтва. Яно ёсць ці яго няма, і падробкі пад яго ёсць падробкі, у якую апратку іх ні аздабляй.




КРАСАВІК

Думаецца, пра гэта трэба гаварыць, не бянтэжачыся. Магчыма, і пакрыўдзяцца на мяне калегі, але ж вялізная падборка вершаў С. Судніка, якой адкрываецца «Полымя», якраз і ёсць такое жаданне друкаваць нешта ў духу часу. Можна было б даць колькі вершаў (паўтараю, вершаў), а не велізарную нізку паэтычных практыкаванняў. Прабачце, спадары, але ці не тое гэта самае, што было калісь з Д. Бедным, А. Жаравым, нашым А. Александровічам? Спрацоўвала сацыяльнае становішча аўтара, а галоўнае — прымаліся пад увагу іх погляды. Я таксама радуюся, што падпалкоўнік С. Суднік у Казахстане арганізаваў для дзяцей вайскоўцаў нядзельную беларускую школу, выкладае ў ёй, рэдагуе газету «Рокаш» (чытаў яе), але ў дадзеным выпадку я кажу пра Паэзію.

Яшчэ колькі слоў пра нешта падобнае. Вельмі змястоўнай атрымалася «Беларусь». Па сутнасці, тэматычны нумар, чарнобыльскі. Адно слова С. Шушкевіча, тагачаснага народнага дэпутата СССР, так і не прамоўленае ў 1988 годзе на з'ездзе ў Маскве (не дазволілі выступіць), ненадрукаванае ў «Звяздзе» (забаранілі публікацыю!) — чаго варта! У ім — праўда пра Чарнобыль, якую на той час вельмі нямногія асмельваліся гаварыць. Надзіва змястоўная падборка для дзяцей «Сонейка», балюча-трывожныя вершы В. Коўтун (апошнім часам яна мала выступае як паэтэса). Уражваюць і старонкі з новай кнігі В. Карамазава «Зямля спынілася». Але чытаю ажно на дзвюх старонках (у пачатку і ў канцы нумара) пра тое, што «Хрыстос уваскрэс», і думаю... Не, я не супраць, каб людзі вярталіся да веры. Толькі навошта кожным разам абавязкова змяшчаць партрэт мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі Філарэта? Калі перагортваеш беларускія выданні, адчуванне такое, што ён сваімі выявамі хутка Брэжнева дагоніць... Я (як і многія!) супраць хуткага «перафарбоўвання». Можа, абыдземся без тых жа крайнасцяў— то пра Леніна (не пра адну «Беларусь» гаворка) з нумара ў нумар, то гэткімі ж свядомымі вернікамі адразу становімся. Хаця і з гэтай самай верай «няўвязкі». Рэлігіі ж розныя ёсць, чаму ж «перавага» Філарэту?

«Полымя» варта прачытаць ад старонкі да старонкі. Назаву асобныя матэрыялы: аповесць М. Клебановіча «Імярэк», раздзелы з аповесці А. Кулакоўскага «Салют над зямлёй» (раней не публікаваліся, была «зарэзана» «наверсе»), вершы А. Вольскага, артыкулы У. Гніламёдава «Яго жыццёвая сіла» (роздум пра М. Багдановіча), М. Арочкі «Уваскрослыя постаці» (лагерная тэма ў нацыянальнай паэзіі), нарыс М. Гарадзецкага «Спецперасяленцы»...

І, канечне, нататкі з Беларускага навукова-даследчага інстытута анкалогіі і медыцынскай радыялогіі «Акно ў памяць», напісаныя А. Новік (пачатак іх у трэцім і чацвёртым нумарах часопіса за мінулы год). Напісаныя з болем і з верай у лепшае, у чалавека, ува ўсіх нас. Услухаемся ў гэтую пакутную споведзь: «Так неяк сталася, што бясконцыя прыніжэнні — наш сумны сённяшні спадарожнік. Але ж і пішам мы пра гэта вельмі ж ужо бескампрамісна. З нейкім жорсткім натхненнем... Бэсцім наша жыццё, саміх сябе, суседзяў... Можа, я ўжо адхінулася ад тэмы, але ж смыліць душа».

Смыліць душа. І не ў адной А. Новік. Значыць, яшчэ не ўсё страчана. Значыць, душа здатная абнавіцца...

**А. АН-ЕВІЧ.**

гатоў — заўжды гатоў». Прынамсі, забываемся, што Ленін з пэўнай п'есы — гэта не аятала, чые з'яўленні вызначаюцца алахам (і таму, маўляў, не падлягаюць чалавечаму суду), а — персанаж, якога аўтар леціць са звычайнай гліны ўласных уяўленняў аб універсаліях камуністычнага карану. А калі даводзіцца мець справу з пэўнымі рэаліямі ленінскага жыццяпісу ў мемуарах ленінскіх паплечнікаў, ягоных сваякоў, з паўсюдна заталдычанымі прытчамі, з якіх складаліся камуністычныя евангеллі на тэму «Ленін аб літаратуры і мастацтве»? Ці спрабуем мы іх успрымаць як пэўную рэальнасць, каб асэнсаваць, уцяміць — што пра што, дзе боб, а дзе гарох?

Барыс Бур'ян прыгадвае: калі ён выпраўляўся ў Віцебск на прэм'еру «Жывы труп» — «...адзін з рэдактараў «ЛіМа» падпісаў камандзіроўку і як бы мімаходзь заўважыў:

— Вы павінны ведаць, што Ленін, які даволі часта пакідаў тэатр пасля першай дзеі спектакля, менавіта драму пра Фёдара Пратасава даглядзеў з напружаннем і хваляваннем да фіналу... Пра гэта Крупская паведамляе ў сваіх успамінах»...

Малайчына быў той лімаўскі рэдактар. Эрудыт. Нібы прадбачыў, што Бур'ян абавязкова гэта ўспомніць. «Сапраўды, — працягвае Бур'ян, —ёсць такія радкі ў Крупскай». (Ёсць такая партыя?) «Хоць п'еса выконвалася па-нямецку (было гэта ў Берліне ў 1915 г.)...»

Стоп, стоп, стоп, давайце паспрабуем адключыцца ад «рэле»: дазвольце запытацца, што ж рабіў таварыш Ленін у Берліне — у 1915-м, як ён апынуўся там, калі паміж Расіяй і Германіяй...

«У святле таго, што мы цяпер ведаем пра жыццё У. І. Леніна, пра ягоныя асабістыя прыхільнасці, пачуцці, захапленні, гэты факт мог бы зрабіцца прадметам роздуму і пэўных высноў» — казыча нашу меркавальную фантазію Барыс Бур'ян.

Мо мы натрапілі на след нямецкіх грошай на кастрычніцкі пераварот?

Дык пагартайма Крупскую:

**«Мы рэдка хадзілі ў тэатр. Пойдзем, бывала, але нікчэмнасць п'есы альбо фальш ігры заўсёды рэзка білі па нервах Уладзіміра Ільіча.. Звычайна, пойдзем у тэатр і пасля першага дзеяння знікаем. З нас смяяліся таварышы, — дарэмна грошы пераводзім» («Воспоминания о Ленине». ГИЗ. 1931 г.).**

**«След грошай» ёсць? Ага...**

**«Але аднойчы Ільіч дасядзеў да канца: гэта было, здаецца, у канцы 1915 г., у Берне». Во-ось яно?..**

**«След грошай» знік. Даруй нам. дарагі Ільіч: ні ў Берне, ні ў Берліне мы з Бур'янам не былі, даводзілася толькі ў Пухавічах, ды часцей за ўсё — праездам з Радашковічаў праз Парычы. — таму і блытаем... Але ж Надзея Канстанцінаўна, прабач, таксама акуратніца — не ў сук, то ў камень: заўсёдзе ў такі тэатразнаўчы лабірынт, з якога аніяк не выберашся, нават праглынуўшы кандыдацкі курс марксісцкай дыялектыкі, настоенай на матэрыялізме. Калі ласка. прачытайма разам.**

**«...ставілі п'есу Л. Талстога «Жывы труп». Хоць ішла яна па-нямецку, але акцёр, які граў князя, быў рускі, ён здолеў перадаць задуму Л. Талстога»...**

**Зразумела?**

Што ж, калі албанец Аляксандр (Сандро) Маісі па-нямецку граў у Ленінградзе з рускай трупай Фёдара Пратасава, ён, кажуць, здолеў у задуме Льва Талстога перадаць не толькі тое, што перадаваў Масквін, — таму паверым, што ў нямецкай трупе ў Берне быў кангеніяльны генію Маісі рускі выканаўца (прозвішча ягонага, на жаль, не ведае гісторыя), які адзін быў варты ўсіх тых немцаў з тае трупы. Можна меркаваць, ягоны геній нават быў буйнейшы ў параўнанні з геніем Маісі, бо Маісі ўсё ж выконваў ролю Фёдара Пратасава, а той, нікому не вядомы, выступаў перад Надзеяй Канстанцінаўнай і Леніным у ролі князя — памятаеце? Абрэзкаў! Ён прысутнічае ў трох карцінах п'есы: атэстуе Лізу ў доме Ганны Дзмітрыеўны, потым прыязджае з прымірэнчай місіяй да Фёдара Пратасава і потым «прамільгне» ў судзе. Эпізадычны персанаж — як праз яго раскрыць усю «задуму»? Нават Станіслаўскі на такое не замахваўся ў сваім Абрэзкаве. Міжволі запытаешся — «а был ли мальчик»: за чыёй ігрой сачыў «напружана і ўсхваляванна» дарагі Ільіч ва ўсіх астатніх сцэнах, дзе таго акцёра-князя не было? А мо Надзея Канстанцінаўна за князя прыняла самога Фёдара Пратасава?

**Уедліва, зацята пагартайма Крупскую, і — знойдем-такі «мальчика». Ён, бедны сіратцінка, апынецца родным брацікам няфёдаўскаму выдранаму «Залпу», бо ў пазнейшых варыянтах бернскіх успамінаў Крупскай фігуруе не адзіны выканаўца-рускі сярод немцаў тае трупы, а — чытайце:**

**«Прыехала неяк у Берн руская трупа (!), якая іграла па-нямецку: ставілі п'есу Л. Талстога «Жывы труп». Мы таксама пайшлі. Гралі вельмі хараша». Вядома — «хараша»: бо, стаўшы рускімі, усе пайшлі ў гару! Князь — знік... Ці не таварыш Сталін загадаў Надзеі Канстанцінаўне, каб Ленін у яе ўспамінах больш не швэндаў у нярускія тэатры, бо інакш, маўляў, яму мы знойдзем іншую ўдаву, з якою ён пачне дагледжваць да фіналу — «Залп «Аўроры», ды не ў Берне, а ў якім Саранску ці ў Чырвонанафэндоўску!...**

Мо на гэтым і паставім кропку? Але ж ёсць спакуса зноў працытаваць з Барыса Бур'яна (ужо без «весялосці»): «У святле таго, што мы цяпер ведаем... гэты факт мог бы зрабіцца прадметам роздуму і пэўных высноў»... Ага... Але ж — якіх «высноў»? Ці не паводле прымаўкі — скажы маёй кабыле «тпру», бо мае губы змерзлі?

Зябнуць нашы губы пачалі тады, пасля хрушчоўскай вельмі цеснай сувязі з народам, зноў — у 1968 годзе. Восень — памятаеце? Ёй папярэднічала «Пражская вясна»... Праз пэўны час пасля таго, як нашы танкі здзейснілі свой гераічны рэйд у Прагу, наш тэатразнаўчы танк абрынуў свой бліцкрыг на «Нёман», гераічна заручыўшыся падтрымкай у ЦК: галоўнаму рэдактару Андрэю Макаёнку загадалі дру-ка-ваць! У студзені — «набрукавалі». У красавіку часопіс «Нёман» распачаў дыскусію — паспрабаваў ізноў гукаць «вясну». Не дагукаўся. У «Полымі» (№ 9, 1969 г.) з'явіўся артыкул «Творчая інтэлігенцыя і сучасная ідэйная барацьба» сакратара ЦК па прапагандзе Пілатовіча, — ён даў нам выспятка, ласкава падбадзёрыўшы Няфёда. Але Макаёнка Пілатовіч пры сустрэчы папярэдзіў-супакоіў, што ніякіх там спагнанняў за дыскусію не будзе. Іх і не было. Ні мне, ні Макаёнку. Толькі неяк неўзабаве выпхнулі з рэспублікі магутнага купалаўца Р. Філіпава (ён, бедненькі, знайшоў сабе прытулак у Маскве ў Малым тэатры). Вытурылі з БТА адказнага сакратара праўлення П. Левашова (два гады туляўся без работы і без пенсіі). Зляцеў у акадэміі з пасады навукоўца кандыдат мастацтвазнаўства (меўся быць, казалі, неўзабаве доктарам) С. Міско.

Затое ў нашай Беларускай акадэміі навук пабольшала яшчэ на аднаго членкора. І пабольшала ягоных шлакаблокаў. Да таго ж, за 25 гадоў ён вывеў плойму неафітаў-паслядоўнікаў. Найбольш надзейныя ўжо маюць доктарскія. Той, які на доктара абараняўся марнаграфіяй пра вельмі прыкрыя пралікі ў вельмі гераічнай тэме (нешта, кажуць, так — мяркуючы па папярэдніх публікацыях, з якімі нам даводзілася сустракацца) — пераняў ужо ад мэтра месца на рэспубліканскім капітанскім мосціку тэатразнаўства ў акадэміі, кіруе беларускай асацыяцыяй тэатральных крытыкаў у СТД, якая адзначае прэміямі новыя няфёдаўскія шлакаблокі.

Сацыялістычны няфэндызм буяе па-ранейшаму.

Таварышочкі, пашкадуйце дзетак! Тпр-ру.

**АД РЭДАКЦЫІ. «Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый», — штораз удакладняе «ЛіМ» на сваёй 16-й паласе. Мяркуем, што менавіта з выпадку публікацыі артыкула Г. Коласа на гэтае ўдакладненне варта звярнуць асаблівую ўвагу.**

## Віншуем!

## Анатолю САБАЛЕЎСКАМУ — 60

**Сваё 60-годдзе сустракае Анатоль Сабалеўскі — вядомы наш тэатральны крытык, даследчык, навуковец, галоўны рэдактар новага часопіса «Тэатральная Беларусь». Віншуем Анатоля Вікенцьевіча з юбілеем і зычым яму новых творчых поспехаў.**

# З УДЗЯЧНАСЦЮ І ПАШАНАЙ

Знаёмства з Анатолем Вікенцьевічам Сабалеўскім адбылося ў даволі складаны перыяд майго жыцця, калі працоўная кніжка стракацела пералікам выпадковых устаноў ці наогул прагаламі — сведкамі часовага беспрацоўя. Будучыня ўяўлялася цьмянай і безнадзейнай. А. Сабалеўскі паверыў у мае магчымасці і тым самым абудзіў так неабходную для кожнага чалавека ўнутраную ўпэўненасць у свае сілы. І потым, на працягу вучобы ў інстытуце і аспірантуры, мой навуковы кіраўнік неаднойчы аказваў мне падтрымку і дзейсную дапамогу. Пасталеўшы, я зразумела— не існуе нічога выпадковага ў гэтым свеце, і таму сустрэчу з Анатолем Вікенцьевічам пачала ўспрымаць з асаблівай удзячнасцю як найвялікшы дар лёсу, а, магчыма, і як маё чалавечае ўратаванне.

Сёння стала нават модай выцягваць на паверхню тыя ці іншыя эпізоды з біяграфіі чалавека — ахвяры ўлады, сістэмы, КДБ. У гэтым сэнсе жыццёвы шлях А. Сабалеўскага не дае спажывы для сенсацыйнага выкрыцця, а наадварот уяўляецца даволі цэльным і гарманічным. Скончыўшы ў 1958 годзе БДУ і ў 1961 годзе вочную аспірантуру пры Дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва ў Маскве, ён шмат год плённа працуе на ніве тэатразнаўства і крытыкі. У 41 год абараніў доктарскую дысертацыю. Быў загадчыкам кафедры і рэктарам Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, цяпер узначальвае аддзел міжнацыянальных культурных працэсаў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Навуковую кар'еру рабіў сумленна, за пасаду ніколі не змагаўся, бо лічыў гэта ніжэй сваёй чалавечай годнасці.

Мяне заўсёды здзіўляла працаздольнасць А. Сабалеўскага, тая адказнасць, з якой ён ставіцца да працы. Няма патрэбы пералічваць усе яго навуковыя публікацыі, гэта заняло б занадта многа месца. Адзначу толькі, што ён надрукаваў 17 кніг, 3 брашуры і каля 500 артыкулаў па самых розных пытаннях гісторыі, тэорыі і сучаснай практыкі тэатра. Яго мастакоўскія прыхільнасці скіраваны таксама на праблемы драматургіі, нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў мастацтве, узаемасувязяў розных тэатральных культур. Але справа нават не ў шырыні навуковых інтарэсаў і тым больш не ў колькасці выдадзеных прац, а, бадай, у тым, што амаль усе яны не трацяць сваёй каштоўнасці ў наш час, калі многае ў гісторыі навукі і культуры пераглядаецца і пераасэнсоўваецца. Я тлумачу гэта выключнай добрасумленнасцю А. Сабалеўскага як навукоўца і чалавека, які ніколі не падтасоўваў, не скажаў гістарычныя факты ў залежнасці ад палітычнай кан'юнктуры.

Шмат з таго, што зрабіў А. Сабалеўскі, можна вызначыць словам «упершыню». Так, беларускую драматургію даследавалі яго папярэднікі літаратуразнаўцы. Але ж менавіта ён знайшоў свой адметны погляд на гэту праблему і разгледзеў беларускую драматургію ў кантэксце сцэнічных культур іншых народаў. («Беларуская драматургія ў тэатрах народаў СССР», 1972). Пасля шматгадовай руплівай працы выйшла ў свет унікальнае выданне «Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі», ў двух тамах. Трэба адзначыць, што такой поўнай хрэстаматыі па тэатры ад вытокаў да сучаснасці не мела і па сённяшні дзень не мае ніводная рэспубліка былога Саюза. Цяпер ідзе поўным ходам падрыхтоўка беларускай тэатральнай энцыклапедыі, ініцыятарам выдання якой і актыўным аўтарам таксама з'яўляецца Анатоль Вікенцьевіч.

Многае было зроблена А. Сабалеўскім і для падрыхтоўкі нацыянальных кадраў тэатразнаўцаў і крытыкаў. Дзякуючы яго намаганням у 1962 годзе адкрыўся завочны тэатразнаўчы факультэт БДТМІ, а ў 1989 годзе павінен быў адбыцца першы набор студэнтаў на вочнае аддзяленне. Аднак новае кіраўніцтва, відаць, спалохалася залішніх клопатаў, і важнае пачынанне, на жаль, так і не здзейснілася. А. Сабалеўскі быў вымушаны пакінуць інстытут. І гэта, на мой погляд, выглядае як прыкрая несправядлівасць. Адзіны доктар мастацтвазнаўства ў штаце БДТМІ, ён руплівa выхоўваў студэнтаў і аспірантаў не толькі для Беларусі, але і для Узбекістана, Літвы, Польшчы, працягваючы тым самым высакародную справу свайго настаўніка прафесара Г. Гаяна.

З імем А. Сабалеўскага звязана і з'яўленне ў рэспубліцы новага доўгачаканага часопіса «Тэатральная Беларусь». Калі б сабраць тую паперу, на якой пісаліся на працягу дзесяцігоддзяў шматлікія даведкі і абгрунтаванні ў адпаведныя органы, то, напэўна, гэты часопіс мог бы бязбедна існаваць не адзін год.Аднак перашкаджалі не толькі абставіны, а і нядобрасумленныя ці абыякавыя людзі. І нават цяпер, калі часопіс, нарэшце, рэгулярна выходзіць, часам замест удзячнасці чуюцца з'едлівыя кпіны: маўляў, не той колер ці не той шрыфт на вокладцы. Становіцца сорамна за гэтых «высокапатрабавальных» скептыкаў, якія быццам бы не разумеюць сённяшняга жабрацкага стану культуры. А можа, ім проста не дадзена адчуць радасць за нашу агульную справу? Дарэчы, арганізатарскія здольнасці А. Сабалеўскага выявіліся і ў выданні буклета да фестывалю «Балтыйская тэатральная вясна-92», які быў падрыхтаваны і надрукаваны ў неверагодна сціслы тэрмін — менш чым за месяц. Цікава, што праграмкі спектакляў тут прыводзяцца на мове арыгінала, а рэзюме даецца і на англійскай мове.

Усе мы з'яўляемся сёння жывымі сведкамі адраджэння роднай культуры і яе каранёў. І, як гэта заўсёды бывае, вакол сапраўды добрых, каштоўных пачынанняў лунае шмат ляманту і гвалту тых, хто, акрамя пустой балбатні, ні на што не здатны. Між тым ва ўсе часы былі людзі, якія без гучных слоў сумленна рабілі справу, узбагачаючы тым самым духоўную скарбніцу свайго народа. Да такіх сціплых працаўнікоў належыць і А. Сабалеўскі, кожнае творчае пачынанне якога спрыяла развіццю нацыянальнай культуры.

Нягледзячы на вялікую занятасць загадчыка аддзела і галоўнага рэдактара часопіса, А. Сабалеўскі за апошнія гады надрукаваў некалькі манаграфій, сярод якіх кнігі пра К. Крапіву, Б. Платонава, зборнік крытычных артыкулаў. У гэтым годзе пад яго рэдакцыяй маецца выйсці першы выпуск зборніка «Культура беларускага замежжа (Амерыка, Польшча)». Ёсць і яшчэ шмат планаў, задумак, ідэй. Дай Бог, каб хапіла сіл і здароўя на іх ажыццяўленне.

**Тамара ГАРОБЧАНКА.**

**МУЗЫКА**

# Першыя сілы... Узброеных Сіл

**Поспех канцэрта, які тыдзень таму адбыўся ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі, вымагае больш пільна і сур'ёзна ўгледзецца ў аблічча яго ўдзельніка.Гэта — Ансамбль песні і танца Узброеных Сіл Беларусі, сталая і па-свойму адметная частка мастацкага жыцця рэспублікі. Апошнім часам яго рэпертуар папоўніўся цікавымі творамі класікі й сучаснай музыкі. Нельга не звярнуць увагу на жанравую разнастайнасць: ансамбль выконвае харавыя балады, эстрадныя песні, джазавыя кампазіцыі, інструментальныя мініяцюры. Самых добрых слоў заслугоўвае харэаграфічная група (кіраўнік М. Салко). якой падуладна выкананне і танцаў народаў свету, і балетных нумароў.**

**Асаблівую ўвагу ўдзяляе ансамбль беларускаму фальклору: у рэпертуары некалькі вакальна-харэаграфічных кампазіцый на народныя тэмы. Мацуюць сувязі вайсковыя музыканты з Саюзам кампазітараў Беларусі. Прыемна, што кола аўтараў, якія пішуць спецыяльна для гэтага калектыву, пашыраецца: сярод іх цяпер Я. Глебаў. І. Лучанок Э. Зарыцкі, Л. Захлеўны, А. Чыркун, А. Елісеенкаў, У. Прохараў, У. Дамарацкі і інш. І яшчэ: у праграмах ансамбля з задавальненнем выступаюць вядомыя оперныя і эстрадныя спевакі рэспублікі, прынамсі, саліруюць у розных творах І. Шупеніч, Я. Пятроў, В. Кучынскі, В. Стральчэня, А. Ярмоленка...**

**Мастацкі кіраўнік Ансамбля песні і танца Узброеных Сіл Беларусі Міхал Снітко лічыць, што задачы ў ягонага калектыву шматлікія: гэта выхаванне сродкамі музыкі юнакоў, якія служаць у войску, знаёмства іх з класічнай ды нацыянальнай музычнай спадчынай, з лепшымі ўзорамі сучаснага мастацтва, уздзеянне музычнымі сродкамі на выхаванне патрыятычных пачуццяў моладзі. Да таго ж, і перш за ўсё, на думку кіраўніка, — гэта прафесійны мастацкі калектыў Беларусі, і адна з яго мэт — прыносіць асалоду шматлікім аматарам і знаўцам музыкі.**

**У тым, што Ансамбль песні і танца Узброеных Сіл Беларусі адпавядае свайму прызначэнню і імкнецца вырашаць новыя творчыя задачы, пераканаў гледачоў нядаўні філарманічны канцэрт.**

**Л. ПАЛКОЎНІКАВА.**

Гэтая публікацыя рыхтавалася да друку на працягу некалькіх апошніх месяцаў, давалася нялёгка і няпроста... Рэч у тым, што з лета 1991 г. у рэдакцыйнай пошце пачалі з'яўляцца лісты, аўтары якіх уздымалі шэраг пытанняў ваеннай гісторыі Беларусі, найперш — Вялікай Айчыннай вайны. Каму служылі калабаранты? З кім змагаліся партызаны? і да т. п. Зразумела, што пераважаў у тых лістах больш эмацыянальны зарад, чым прага дасведчанасці, але праігнараваць чытацкі «зык» было нельга.

Урэшце мы змясцілі допіс Я. Шыраева «Партызаны правакавалі акупантаў» і контрдопіс Н. Пашкевіча «На арэлях разбэрсанай думкі» («ЛіМ», 3. 04. 1992). — як значанне нашай увагі да чытацкай думкі... Але яшчэ раней рэдакцыі было вядома, што тэму калабарацыі падчас другой сусветнай вайны распрацоўвае кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела ваеннай гісторыі Беларусі савецкага перыяду Аляксей ЛІТВІН, і мы былі з ім знаёмыя, неаднаразова сустракаліся, гутарылі... Аднак знаёмства з гісторыкам перасягнула першапачатко-ва зададзеную «ваенную» тэматыку: неўпрыкмет у нашых гутарках пачаў дамінаваць агульнагістарычны, нават гістарыясафічны аспект, развагі пра філасофію гісторыі. У нечым атрымалася як бы споведзь гісторыка - «сямідзесятніка», які 10 год (самы застой — 1975—1985 гг.) працаваў у інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ...

Юрась ЗАЛОСКА.

**ЛІМАЎСКІЯ ДЫЯЛОГІ**

# «ГІСТОРЫЯ КОЖНЫМ НОВЫМ ПАКАЛЕННЕМ ПЕРАПІСВАЕЦЦА НАНОВА...», альбо Флірт багіні Кліо, да якой трэба прывыкнуць



**— Аляксей Міхайлавіч, перш чым закрануць канкрэтныя пытанні нашай ваеннай гісторыі, хацелася б пачуць ваша асабістае меркаванне наконт гістарычнай адукаванасці грамадства. Здаецца, вось-вось публіцыстыка, прэса адкажуць на ўсе пытанні, раскрыюць усе «белыя плямы» найноўшай гісторыі: як хутка перабудовачная публіцыстыка «збэсціла» сталінізм, гулагаўшчыну, кастрычніцкі пераварот—памятаеце? Што да тэмы другое сусветнае вайны, дык тут доўгі час захоўваўся свяшчэнны піетэт, маўчанне. Ці не азначае гэта, на вашу думку, прыбліжэнне ашаламляючых адкрыццяў і ў гісторыі апошняй вайны?**

— Гістарычная адукаванасць падразумявае, натуральна, веданне гістарычнай праўды аб тых ці іншых з'явах і падзеях мінуўшчыны, аб дзеяннях ці бяздзеяннях асобных людзей, калектываў і г. д. Праўда гісторыі—катэгорыя шматмерная, у чымсьці загадкавая і нават гарэзлівая. Мы ўвесь час да яе (праўды) набліжаемся, а яна ўвесь час фатальна выслізгвае ад нас, каб потым прыйсці больш складанай. Наша бяда — і грамадства, і гісторыкаў,— што нас прывучылі да гісторыі аднамернай. вычарпальна яснай і простай. Але ўвесь парадокс у тым, што гэтая аднамернасць з'яўляецца на нейкім часе непазбежнай. Справа ў тым, што кожны перыяд гісторыі мае заўсёды некалькі версіфікацый — у сваім родзе міфаў, прычым адзін з іх галоўны, які з'яўляецца афіцыйнай версіяй гісторыі. І так было не толькі пры савецкай уладзе, так было заўсёды. Звычайна сучаснікам і ўдзельнікам гістарычных падзей вельмі цяжка адэкватна ўспрыняць і зразумець гісторыю, суаднесці рэальнасць і афіцыйную яе трактоўку. Нам карціць пазбегнуць разумовых намаганняў, і таму мы задавальняемся афіцыйным міфам... Але гэта зусім не значыць, што рэальная ці сапраўдная гісторыя заўсёды супрацьлеглая афіцыйнай, да чаго нас імкнуцца апошнія гады прывучыць сродкі масавай інфармацыі,— не, яна проста багацейшая.

Я лічу, што гісторык і павінен імкнуцца зразумець шматмернасць гісторыі, а не запыняцца на нейкім міфе. Бо міф — гэта зададзенасць, гэта заганная метадалогія, якая асуджае даследчыка на дэкларатыўнасць, у рэшце рэшт — на творчую смерць. Пануючы міф нашае найноўшае гісторыі — яе «апартызаванасць»; хто з даследчыкаў паддаваўся яму — быў згублены для навукі. Вы думаеце, чаму я за 15 гадоў не выпусціў ніводнай манаграфіі? Зусім не таму, што не было напрацовак: проста не хацеў падладжвацца пад афіцыйную танальнасць, аддаваць «должное» ўсяму гэтаму генсекаўскаму маразму (хаця, зрэшты, таго хапіла). Затое іншыя, хто падладжваўся, зараз дактары навук, аўтары кніг і падручнікаў. Але, як ні дзіўна, мне цяпер намнога лягчэй працаваць, чым ім; усе свае колішнія набыткі гэтыя людзі замоўчваюць.

**— Такім чынам, андэграунд у гістарычнай навуцы існаваў і да перабудовы?**

— Мусіць, у традыцыйным значэнні гэтага слова, такое вызначэнне было б нацяжкай. Выразнага андэграунда не было, хутчэй за ўсё кожны сумленны вучоны меў свой асабісты андэграунд. Бо нават у тыя часы існаваў шанц застацца сумленным даследчыкам — толькі платай за сумленнасць было публічнае маўчанне. Шанц выкарыстоўвалі не многія, і таму большасць рабілася фанатычнымі партыйнымі гісторыкамі-артадоксамі, па сутнасці — прапагандыстамі, а не даследчыкамі. Памяркоўным, узважлівым даследчыкам сумленне не дазваляла пісаць так, як артадоксы. «Аддушынай» затое былі лекцыі. Вось там наша асабістае падполле выгаворвалася сапраўды «ад душы»! Для маладзейшых чытачоў, выхаваных перабудовай, гэта прагучыць, можа, і нечакана, але ў застойныя гады ў вусным выступленні можна было дазволіць сабе і адступленні ад афіцыйнага канона. Я, напрыклад, мог гаварыць пра «белыя плямы» партызанскай барацьбы і інш...

**— Да «тэмы» пяройдзем пазней... Скажыце, ці існавала сярод тых гісторыкаў, хто мог выгаварыцца толькі вусна (і то, відаць, гледзячы ў якой аўдыторыі), памкненне да дысідэнцтва?**

— Суполкі стваралі тыя, хто вельмі рана выходзіў на самвыдат ці на людзей, якія ведалі, што такое сталінізм. У часе вучобы на гістфаку (1968—1973 гг.) такіх магчымасцяў у мяне не было. Пазней ужо, працуючы ў архівах, пабачыў я шмат. Але, відаць, больш ураўнаважаны ўзрост спрыяў таму, каб моўчкі «пракаўтнуць» тыя звесткі і карыстацца імі ў падсвядомасці ці ў вельмі давераным, сямейным крузе, дый то, як кажуць, шэптам.

Але вы, маладыя людзі, не можаце ўявіць, як драматычна перад намі ў тыя 70-я гг. стаяла дылема «верыць — не верыць»... Гэта сёння лёгка сказаць, што даклады Брэжнева на з'ездах партыі — гэта маразм, а тады ім верылі і шмат цытавалі. Дакладней — хацелася верыць чутаму, хаця нутро, той асабісты андэграунд, пра які вы трапна заўважылі, падказвала, што гэта не тое. Мы, відаць, калісьці даследуем феномен веры. Гэта фатальная рэч, асабліва для нашага колішняга існавання — існавання ў аднамернай камеры. Нам было ўласціва прымаць законы тае камеры натуральнымі, і нам хацелася верыць. Вось дзе гамлетаўскае пытанне. Я, напрыклад, верыў у свой час кнізе Д. Валкагонава «Псіхалагічная вайна», верыў, мусіць, у напісанае і ён сам. Чаму ж танальнасць яго выступленняў так неўспадзеў «канвергенцызавалася»?.. Але ж хочацца верыць і ў тое, што ён піша цяпер?..

Вось вам гульня гісторыі, якая час ад часу мяняе не толькі сваё аблічча, але і людзей, якія хочуць яго разглядаць.

**— Складваецца ўражанне, што багіня Кліо схільная да «флірту» з грамадствам, і яно досыць лёгка на яго паддаецца?**

— Што да «флірту» гісторыі, дык да яго трэба папросту прывыкнуць. «Единомыслие» ў нас самі ведаеце як доўга панавала. Мы яшчэ не прывыклі да таго, што можа быць існаванне розных, часам супрацьлеглых думак, поглядаў на тое ці іншае пытанне. Толькі мы маглі па 24 гадзіны глядзець прамыя трансляцыі са з'ездаў народных дэпутатаў... Гэта менавіта наш феномен.

Але грамадская свядомасць зменлівая ў часе. Прынята зараз лічыць, што наша ментальнасць робіцца больш пластычнай, разняволенай, нармальнай... Толькі, па маіх назіраннях, гэтыя змены зусім не ёсць натуральныя, бо яны таксама навязваюцца грамадству. Гісторыя сама па сабе схільная да флірту, але калі гэтую яе схільнасць выкарыстоўваюць сродкі масавай інфармацыі, дык тады грамадству можна навязаць любыя перакананні. Здзіўляе толькі лёгкасць, з якой мяняецца грамадская думка.

З пачаткам перабудовы сродкі масавай інфармацыі выкарысталі адмысловы псіхалагічны прыём: «артпадрыхтоўку» па зададзеных квадратах, прычым «агонь» пераносіўся ў накірунку розных юбілеяў, памятных дат. Напрыклад, важнейшы «квадрат» гісторыі другой сусветнай вайны — пакт Рыбентропа-Молатава. Яшчэ б крышку намаганняў публіцыстаў — і мы паверылі б: не, гэта не Гітлер, гэта Сталін рыхтаваў і развязаў вайну... Але надышоў юбілей — трагічны — 50 год пачатку Вялікай Айчыннай вайны, увага пераключылася на год 1941-ы. І так паслядоўна па юбілеях: 50-годдзе бітвы пад Масквой, Сталінградскай бітвы і г. д. (Адкрыццяў па апошняй трэба яшчэ чакаць.)

Перабудовачныя гады — таксама ўжо гісторыя, адлюстраваць якую гісторыкам будзе нялёгка. Калі мы былі сведкамі і саўдзельнікамі перабудовы, дык успрымалі яе зусім не так, як успрымаем і ацэньваем цяпер. Праз некалькі год, хутчэй за ўсё, зменяцца і сённяшнія ацэнкі. Справа ў тым, што пазнанне ідзе заўсёды ўглыб, пазнанне гісторыі — асабліва. Памятаеце, як некалькі гадоў таму мы шырока адчыненымі вачамі чыталі пра Бухарына, Троцкага, знаёміліся з матэрыяламі былых судовых працэсаў 20—30 гадоў? Але сёння кожны школьнік ужо давядзе вам, што любы з акружэння Леніна на месцы Сталіна быў бы Сталіным, і вінаваты не ён і яго акружэнне, а сістэма...

Вось як метафізічна пераліваецца нашая думка, і да гэтых пераліваў, відаць, мы ніколі не прывыкнем. Увогуле сапраўдная гісторыя СССР яшчэ не напісана, тое што маем,—гэта не гісторыя, а толькі матэрыялы да гісторыі.

**— Мусіць, вельмі важна, які метад прыняты ў гістарычнай навуцы: ім і абумоўлена вартасць даследаванняў... Скажыце, працуючы ў інстытуце гісторыі партыі, вы не адчувалі супярэчнасці між вашымі ведамі (асабліва з архіваў) і тым, як іх трэба было падаваць?**

— Перш чым казаць пра сам метад гістарызму, на якім базавалася наша навука, трэба сказаць увогуле пра арганізацыйную «ідэалагізацыю» навуковага працэсу. Калі мы прыходзілі ў навуку, пачыналі даследаванні, нам казалі: у гэтай галіне ёсць такія падыходы, такая традыцыя, і гэта трэба было прымаць. Сказаць нешта новае не было магчымасці: рукапісы абмяркоўваліся перш у аддзеле, затым на вучоным савеце, пасля іх разглядалі ў выдавецтве. Там патрабавалі 2—3 рэцэнзентаў... Як ні дзіўна, гэтая ж сістэма працуе і сёння!

Але асобая роля для кантролю за ідэалагічным рэжымам адводзілася Галоўліту. У гэтай установе з даследчыкаў маглі здзекавацца па-чорнаму. Яшчэ ў 1986 годзе мне некалькі разоў даводзілася там бываць, і ўсё з-за таго, што цэнзар забараняў спасылацца на ўжо апублікаваныя звесткі! Тлумачылі: у нас маецца такая ўстаноўка, згодна з якой непажадана прапагандаваць такуюсьці думку, хай нават яна і прайшла ў друку. Без горычы і сарказму тыя часы ўспамінаць нельга. Мне здаецца, што Галоўліт як установа развіваўся па ўласных законах, яго супрацоўнікі самі прыдумвалі сабе працу, і іх фантазіі ў гэтым плане былі бязмежнымі.

Канешне, такая сістэма «кастрацыі» творчай думкі не магла не выклікаць унутраны пратэст. Але праўдай будзе і тое, што вучоныя звыкліся з такой сістэмай. Калі я працаваў у гістпарце, дык склалася ўражанне, быццам сярод гісторыкаў прыняты «грамадскі дагавор»—дзеля таго, каб пісаць у вызначаных межах. Самі межы не мяняліся да перабудовы, але ў многім іх уплыў адчуваецца і па сёння, яны трывала ўкараніліся ў свядомасць. Напрыклад, што да ваеннай тэматыкі, дык абавязкова трэба было вытрымліваць тры пастулаты: змаганне супроць акупантаў у тыле ад пачатку было арганізавана партыяй, наперадзе йшлі камуністы і камсамольцы, сапраўдны гераізм быў толькі там, дзе была партыя. Гэта вельмі адмысловая метадалогія — метадалогія ідэалагічная, дзе ўсё зададзена, запраграмавана. Куды важнейшай за навуку была асабістая лаяльнасць да ўладаў, асабістая партыйная дысцыпліна і да т. п. У прынцыпе, гісторыя як навука яшчэ не пазбавілася сутыкнення паміж самой навукай і ідэалогіяй.

Цяпер мяне трывожыць той стан, быццам гісторыкі атрымліваюць новы сацыяльны заказ. Раней вядома які быў заказ: партыйны. Зараз заказ фармальна іншы, хаця па сутнасці розніцы між старым і новым няма. Напрыклад, калі раней я паспрабаваў бы сказаць нешта пазітыўнае аб дзейнасці В. Івноўскага, мне б хутка закрылі рот. Але калі цяпер я напішу дакументаваную гісторыю падпольнага руху, дык гэта таксама не надрукуюць: маўляў, гэта не будуць сёння чытаць...

Таму мяне трывожыць заказ на новую з а д а д з е н а с ц ь у фармуляванні гісторыі, зададзенасць «ад зваротнага». Але навукі не будзе і тут, бо навука — гэта найперш праўдзівая інфармацыя і аналіз усяго комплексу фактаў, а не дактрыны ці ўстаноўкі, якімі б дэмакратычнымі ці не вельмі яны ні былі.

**— Але, пагадзіцеся, грамадства прымала «кароткакурсавую» гісторыю, было ёю задаволена?**

— А тут ізноў узнікае сацыяльна-псіхалагічны чыннік — схільнасць да веры, толькі ўжо на ўзроўні грамадства. Колішняму, асабліва даваеннаму грамадству дыялектыка не была патрэбна. Яе мы ніколі не разумелі. Яскрава аб гэтым сведчыць наша стаўленне да твораў пра вайну. Адна справа, калі пра яе (вайну) напіша маршал, які праваяваў на КП, і зусім іншая — калі сведчыць радавы салдат. Чамусьці «кабінетная» праўда прымалася шмат лягчэй, чым рэчы псіхалагічна-экзістэнцыяльнага плана, дзе шмат драматызму і пакуты. Памятаеце, якому астракізму падвяргаліся творы—«акопная праўда»—В. Быкава, Ю. Бондарава, В. Астаф'ева, С. Алексіевіч?.. І толькі таму, што ўзнікаў новы ракурс гледжання, новая плынь дасведчанасці, якая была больш чалавечай па зместу, па-другому набліжалася да праўды...

Але драматычная праўда шмат цяжэй прабівалася да нас, чым праўда мемуарна-лакіраваная. Дарэчы, у свой час мяне шакіраваў наступны факт. Аказваецца, менскія беларускія газеты ў часе акупацыі друкавалі звесткі пра гулагаўшчыну, нават прыблізныя лічбы (і досыць дакладныя) рэпрэсіраваных і загінуўшых у лагерах, друкаваўся і твор Ф. Аляхновіча «У кіпцюрох ГПУ». Але гэтыя звесткі не выклікалі ніякага рэзанансу, яны проста не ўспрымаліся людзьмі!..

Увогуле веданне і ўспрыманне гісторыі розныя рэчы. Напрыклад, прэзідэнт Украіны, колішні партыйны работнік Л. Краўчук неяк у тэлеінтэрв'ю сцвярджаў, што не ведаў пра голад на Украіне. З вуснаў былога сакратара па ідэалогіі гэта чуць смешна, бо ідэалагічныя работнікі ведалі ўсё. Іншая справа, што яны тлумачылі той голад зусім не так, як могуць казаць пра яго зараз.

**— Вы сказалі пра новы сацыяльны заказ навуцы. А якая навука можа ўнікнуць такіх заказаў, застацца «бесстаронняй»?**

— Сутнасць у метадалогіі. Класава-партыйны падыход да гісторыі — гэта не толькі адпаведная лексіка, гэта яшчэ і метад. Савецкімі гісторыкамі быў узяты на ўзбраенне прынцып гістарызму, які арганічна зліты з матэрыялістычным разуменнем сацыяльнага жыцця, з тэорыяй пазнання дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізму. Адной з галоўных пазнаваўчых функцый гістарызму з'яўляецца ўсталяванне адзінства грамадскага працэсу. Мінулае, сучаснае і будучае пры гэтым раздзелены ў часе.

Апалагетам гістарызму быў Ленін. Памятаеце пра яго выступленне супраць ліберальнага народніка М. Міхайлоўскага? Той лічыў, што матэрыялістычнае разуменне гісторыі не можа быць надзейным фундаментам навукі, што «гісторыя не ведае, што такое яна сама і ў чым складваецца яе задача: у бесстароннім запісванні ўсяго, што адбылося, ці ў малюнкавым адлюстраванні мінулага, ці ў здабыванні практычных урокаў з гістарычнага вопыту, ці ў адкрыцці агульных і асобных законаў, якія падпарадкоўваюць гістарычныя з'явы вядомай правільнасці і парадку» (з кнігі «Герои и толпа»). Як вядома, 24-гадовы Ленін крытыкаваў Міхайлоўскага ў брашуры «Что такое «друзья народа»...»

Гістарызм як навуковы прынцып не ўспрымаецца заходнімі вучонымі. Яны лічаць, што метадалагічныя палажэнні марксісцка-ленінскай навукі ёсць ні што іншае, як абстрактныя фармулёўкі і паняцці, якія натуральна не выцякаюць з сутнасці гістарычнага пазнання. Прафесар Нью-йоркскага універсітэта Г. Ігрэс, напрыклад, лічыць, што гістарызм, як навуковы прынцып, адыходзіць у мінулае, саступаючы месца гістарыцызму, г. зн. перакананню, што «гістарычнае» раўназначна «адноснаму». Сярод даследчыкаў цяпер пашыраецца думка, што ў гісторыі ўсё адносна, што яна па-новаму перапісваецца кожным новым пакаленнем, і што ў ёй магчымыя любыя інтэрпрэтацыі мінулага. Дзякуючы гэтаму метаду, на Захадзе ўзніклі тэорыі «пастіндустрыяльнага грамадства», «грамадства сярэдняга класа», «канвергенцыі», якія па-рознаму тлумачаць сэнс сучаснага грамадскага развіцця.

**— У выступленнях многіх гісторыкаў падкрэсліваецца важнасць нацыянальна-патрыятычнага крытэрыю, цэнтравання даследаванняў вакол нацыянальнай ідэі. Як вы ставіцеся да такога падыходу?**

— Абсалютызацыя таго ці іншага крытэрыю—ужо схематызацыя навукі. Мусіць, на нейкім этапе сапраўды асабліва важны нацыянальны крытэрый, але толькі на нейкім, бо тады можна перакрэсліць, назваць дарэмнымі ахвяры нашага народа ў Вялікай Айчыннай: маўляў, якую «Айчыну» баранілі беларусы — сталінскую імперыю?..

Але ў жыцці (не ў навуцы) заўсёды пануе нейкая цэнтральная ідэя. У сучасны момант набірае моц ідэя нацыянальнага Адраджэння, стварэння сваёй дзяржаўнасці. Яе праводзяць у жыццё свядомыя людзі, і таму гісторыя заўсёды будзе суб'ектываванай. У нас нацыянальнае развіццё, напрыклад, значна адрознае ад развіцця Шатландыі. Нядаўна мне давялося там пабываць, і я быў здзіўлены, што шатландцы таксама рыхтуюцца да стварэння сваёй дзяржаўнасці. Праўда, шлях іхні другі. Некалькі гадоў таму ў іх быў праведзены рэферэндум, дзе большасць выказалася за дзяржаўны суверэнітэт. Створана собская валюта (шатландскія фунты), якая ходзіць нараўне з англійскімі фунтамі ў Шатландыі, а з 10 фунтаў—па ўсёй Англіі. Створаны таксама свой суд, свая царква, шануецца архітэктура, помнікі культуры... І ніякай істэрыі, ніякага шавінізму, толькі — прага незалежнасці.

**— Пакольні асноўная тэза вашых разваг—пра шматмернасць гісторыі, дык варта меркаваць, што і ваенная гісторыя ў яе афіцыйнай трактоўцы далёная ад рэчаіснасці... Да нас у рэдакцыю яшчэ ў мінулым годзе пачалі прыходзіць лісты, у якіх аўтары—і людзі сталага веку, і студэнты—ставяць такія пытанні: а каму служылі беларускія калабаранты — Гітлеру ці Бацькаўшчыне; ці была партызанская вайна сапраўды ўсенароднай і да т. п. Таму я вяртаюся ў нашай размове да пачатку: якую гісторыю вайны мы маем і накольні яна з'яўляецца поўнай?**

— Можна сказаць, што ваенныя гісторыкі знаходзіліся пад асабліва шчыльным «каўпаком» партнагляду. Яго, гэты нагляд, было каму ажыццяўляць. Справа ў тым, што нашу рэспубліку можна назваць «партызанкай» не толькі таму, што ў нас было шмат партызан у вайну, але і таму, што партызаны кіравалі ёю пасля вайны. Гэтая акалічнасць накладае своеасаблівы адбітак на вывучэнне і адлюстраванне падзей вайны ў беларускай гістарыяграфіі.

Трэба зразумець, што для партызанскіх камандзіраў і камісараў, дый для бальшыні радавых змагароў у тыле і на фронце гісторыя атаясамліваецца са сталінскімі брашурамі і выступленнямі. Але сумленны гісторык павінен прызнаць, што ўжо з першых дзён вайны пачалася яе фальсіфікацыя. Першым і галоўным фальсіфікатарам быў Сталін. Да самай яго смерці метадалагічным эталонам па вайне з'яўлялася брашура «І. В. Сталін аб Вялікай Айчыннай вайне».

Пасля XX з'езда становішча пачало выпраўляцца, але ідэалагічная зададзенасць сталінскага часу трывала засела ў галовах, працягвалася фальсіфікацыя. Напрыклад, на пачатку 60-х гг. шмат пісалася пра ўклад у перамогу М. Хрушчова, пазней мы былі ўражаны «велізарным укладам у Перамогу» Л. Брэжнева...

Амаль 20 гадоў пісалася трохтомная праца «Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков»... Гэтая праца вялася пад непасрэдным наглядам аддзелаў ЦК КПБ і асабіста П. Машэрава, які сфармуляваў задачу «апаэтызаваць подзвіг беларускага народа ў час вайны». Тэксты рэдагаваліся, а то і перапісваліся ў ЦК, акрамя таго, у якасці кансультантаў выступалі былыя кіраўнікі падпольных партыйных і камсамольскіх органаў, партызанскіх злучэнняў... Відавочна, што стварыць тады ўсебаковую, «шматмерную» гісторыю было немагчыма.

Нялёгка зрабіць гэта і цяпер, хаця знаходзяцца ўсё новыя і новыя архіўныя матэрыялы. Чаму? Бадай, таму, што для вучоных — удзельнікаў вайны новай гісторыі ўжо не будзе, і трэба з гэтай акалічнасцю змірыцца, не абражаць людзей; новы ж даследчык са «шматмерным» мысленнем у навуку яшчэ не прыйшоў. Для маладых гісторыкаў прыкладам у гэтым сэнсе можа быць даследчык з Польшчы Юры Туронак, аўтар кнігі «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», выняткі з якой у мінулым годзе друкаваў часопіс «Нёман». У ёй шмат новых факталагічных і дакументальных звестак, а таксама аўтарскіх версій тых ці іншых падзей (забойства В. Кубэ, напрыклад). Таму вашым чытачам, у каго ўзніклі пытанні, можна параіць прачытаць гэту кнігу.

Відаць, як і ваш тыднёвік, іншыя газеты таксама надрукуюць у хуткім часе шмат лістоў, артыкулаў, пра якія вы заўважылі ў пытанні. Свежая думка — гэта заўсёды карысна, толькі, як паказвае практыка, у такіх выпадках аўтары дамагаюцца палярнай змены акцэнтаў, каб занапанавалі новыя стэрэатыпы. Але ж гісторыя ад такіх «змен» толькі выхалашчваецца, а не ўзбагачаецца.

**— Мусіць, сапраўды, дапытлівыя чытачы змогуць прачытаць кнігу Ю. Туронка, хаця, ведаю, і вы, Аляксей Міхайлавіч, маглі б не горш, а, можа, і лепш за яго расказаць пра калабарацыю і жыццё пад немцамі. Зараз пашыраецца думка, што створаныя падчас вайны арганізацыі рабілі шмат карыснага для беларускага народа, для адраджэння, клапаціліся аб стварэнні нацыянальнага войска і г. д. Антыдумка—што гэта былі здраднікі народа. Як тут разабрацца?**

— Глядзець трэба дыферэнцыравана. Найперш — пазбавіцца ідэалагічных тэрмінаў. Нас выхавалі, што ўсе, хто меў дачыненне да акупацыйных уладаў,—здраднікі і ворагі. Але па такім крытэрыі атрымліваецца, што здраднікам быў... **увесь** народ, які апынуўся пад немцамі! Доблесная Чырвоная Армія, якая пераўзыходзіла па сілах вермахт на заходняй граніцы, не змагла абараніць насельніцтва, якое ніколі не думала, што можа застацца пад ворагам. Але цывільнае жыццё працягвалася і пад ворагам. Ніхто з тых, хто прызываў да партызанскай вайны, не думаў, што нехта павінен сеяць хлеб і гадаваць скаціну, нараджаць дзяцей і будаваць сялібы... Вайна — гэта не толькі бойка; гэта таксама і жывое, хай і драматычнае, але жыццё. Калі мы прымаем гэты «агульначалавечы» падыход, ёсць шанц, наблізіцца да праўды.

Мусіць, гістарычная навука развіваецца менавіта ў такім кірунку. А стымулююць яе перш за ўсё публікацыі друку. «ЛіМ» за 3.04.1992 г. змясціў артыкулы Я. Шыраева і Н. Пашкевіча, з красамоўнымі назвамі «Партызаны правакавалі акупантаў» і «На арэлях разбэрсанай думкі». Гэтая публікацыя — першы сімптом развіцця «тэмы». Згаданыя аўтары, на жаль, аперуюць тымі ж ідэалагічнымі катэгорыямі — «патрыёты» альбо «здраднікі». Але, мусіць, надыходзіць час разглядаць дзейнасць людзей у пашыраным кантэксце, як гэта прынята ў свеце.

Напрыклад, што да праблемы калабарацыі, дык яна ў нашай гістарыяграфіі фактычна не даследавалася, і гэта трэба зрабіць. Але ўжо цяпер, калі ўзнікаюць пытанні, трэба дакладна ведаць, адносна каго можна ўжываць тэрмін «калабарацыя». У гады другой сусветнай вайны цэлыя партыі, рухі, гаспадарчыя колы, сродкі прапаганды, урады асобных краін (Нарвегія, Францыя, Данія, Чэхаславакія і г. д.) сталі супрацоўнічаць з гітлераўцамі. Гэта з'ява ў 1953 годзе атрымала назву «калабарацыя». Тэрмін упершыню ўжыты ў слоўніку Робертаса і характарызаваў рух французаў, якія падчас вайны хацелі працаваць над адраджэннем Францыі пры супрацоўніцтве з немцамі. У заходняй літаратуры адрозніваецца калабарацыя палітычная, ідэалагічная і ваенная. Наш ваенна-гістарычны слоўнік тлумачыць калабарацыю як здраду сваёй Радзіме і пераход да супрацоўніцтва з ворагам. Я лічу такое вызначэнне не зусім дакладным.

Справа, зрэшты, не ў назве. Перш за ўсё цікавіць сама з'ява. Падчас кожнае вайны акупанты, захапіўшы пэўную тэрыторыю другой краіны, стараліся абапірацца на пэўныя колы насельніцтва ці на існуючыя дзяржаўныя і другія структуры для ажыццяўлення сваёй палітыкі. Згодна з Міжнародным правам, дапускаецца праца ў акупацыйных органах кіравання, калі яна не накіравана супроць свайго народа. Адрозніваюцца прымусовая і дабравольная праца ў час акупацыі.

**— Можна зразумець, што трэба праводзіць нейкую рысу паміж калабарацыяй і супрацоўніцтвам?**

— Добраахвотнае ці прымусовае супрацоўніцтва існавала пры ўсіх войнах. Галоўны паказчык **калабарацыі** — гэта ідэалагічная еднасць груп, колаў, партый, асобных грамадзян на ідэі нацыянал-фашызму. Калабаранты — гэта мясцовыя нацыянал-фашысты, сінонімам гэтага слова з'яўляюцца «квіслінгавец», «петэнавец»... Кваліфікаванне каго-небудзь гэтымі тэрмінамі заўсёды насіла ідэалагічны адценак, сведчыла аб тым, што гэты чалавек стаяў на процілеглым баку антыгітлераўскай кааліцыі.

Дарэчы, сярод тых, каго прывабіла нацыянал-фашысцкая ідэя, былі і вельмі славутыя людзі. Лаўрэат Нобелеўскай прэміі пісьменнік Кнут Гамсун, напрыклад, горача вітаў добраахвотнікаў, якія ўвайшлі ў Нарвежскі батальён для змагання з бальшавізмам. «Вітайце гэтых юнакоў змагароў,—заклікаў К. Гамсун.— На палёх бою паўстане зноў чэсць нарвэскага народу... Яны стаяць за маладосць і жыццё, за будучыню Нарвегіі. Побач з нямецкім, наш удзел у гэтай вайне — толькі кропля ў моры. Таму мы больш служым сабе, як Нямеччыне і Эўропе...» («Мінская газета», 1942 г., 11 студзеня).

**Можна вылучыць тры састаўныя часткі калабарацыі. Па-першае, тыя сілы, якія былі ў апазіцыі да бальшавізму (існавалі ў Заходняй Беларусі, Польшчы, Германіі). Яны зрабілі стаўку на гітлераўскую Германію, каб адраджаць з яе дапамогай Беларусь. На правым фланзе гэтых сіл стаяла Беларуская нацыянал-сацыялістычная партыя (беларускія фашысты) на чале з Ф. Акінчыцам. Яна дзейнічала з 30-х гг., мела часопіс «Новы шлях». Калі стала відавочнай вайна Германіі з СССР, да супрацоўніцтва з немцамі схіляліся і прадстаўнікі іншых партый (В. Захарка, В. Гадлеўскі, Я. Станкевіч, І. Ермачэнка і інш.). Па-другое, тыя, хто жыў да вайны ў БССР і, паверыўшы немцам, свядома пайшоў да іх на службу. Па-трэцяе, людзі, якія абставінамі лёсу апынуліся ў адной звязцы з першай і другой групамі, альбо аказаўся ў радах калабарацыі пад прымусам.**

Касцяком калабарацыі была першая група. Прадстаўнікі беларускай эміграцыі выдавалі ў Менску і іншых гарадах прафашысцкія газеты і часопісы, супрацоўнічалі ў прапагандысцкім апараце немцаў. Каб чытачы зразумелі, да чаго імкнуліся нацыянал-фашысты, працытую «Мінскую газету» ад 15 студзеня 1942 г.:

**«Яшчэ задоўга перад нямецка-польскай вайной група беларускіх патрыётаў на чале з тагачаснай беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыяй выэмігрыравала ў Нямеччыну, каб там далучыцца да агульнага змагання за новы парадак у Эўропе. Частка з іх увайшла ў рады нямецкай арміі, другая частка вяла ваенна-палітычную прапаганду. Тыя беларускія нацыянал-сацыялісты, што засталіся ў краі, вялі падпольную работу, рыхтуючы грунт для вызвалення Беларусі з-пад польскага і расійскага ярма. Цяпер Беларусь вольная ад гэтых ворагаў. Цяпер нашым заданьнем з'яўляецца змаганне з ворагам нутраным—камуністамі, жыдамі, недабіткамі польскіх паноў, падпанкаў, польскіх ксяндзоў у Заходняй Беларусі, якія ачмуцілі нацыянальна і далей чмуцяць частку нашага народа...»**

І яшчэ адна цытата — з «Беларускай газеты» ад 18 ліпеня 1942 г.:

**«Цяпер застаецца выразна падчыркнуць, хто нашыя ворагі. Першым ворагам, як і ворагамі ўсяе новае Эўропы, з'яўляецца жыда-камуна. Ейныя банды вынішчаныя. Але апрача яўных ворагаў, мы маем шмат укрытых, якія ў душы ненавідзяць нашае Адраджэнне і ўсімі спосабамі перашкаджаюць нашаму нацыянальнаму жыццю. Такіх ворагаў блізу больш, чымся лясных бандытаў. Ёсць рэшткі шляхпанскіх урадаўцаў ды іхніх прыслужнікаў, польскіх ксяндзоў, якія хваравіта летуцяць аб польскім імперыялізме і якія цяпер фактычна з'яўляюцца хаўруснікамі жыда-камуны. Пад уплывам гэтых паноў яшчэ знаходзіцца частка нашага атуманенага сялянства Заходняй Беларусі. Гэтае сялянства мы павінны найхутчэй вызваліць ад шкоднага ўплыву і працерці яму вочы, засыпаныя польска-насцельнаю чмушою. Тут, у Менску і іншых гарадах Усходняй Беларусі, ворагамі нашымі з'яўляюцца скрытыя камуністы і наогул расейцы, або атуманеныя Масквой «беларуссы...».**

Можна яшчэ прачытаць і пра тое, што «Менск павінен стаць цэнтраляй собскага беларускага жыцця пад нямецкім правадырствам у новай Эўропе...» і да т. п. Гэта тыповы лозунг і для калабарацыі іншых краін.

**— Але зараз пашыраецца думка, што створаныя падчас вайны з дазволу немцаў арганізацыі рабілі шмат карыснага для беларускага народа, наладжвалі цывільнае жыццё і да т. п.**

— Немцы ўсталёўвалі свой парадак вельмі жорстка. Усе рабочыя і служачыя павінны былі з'явіцца на свае рабочыя месцы, беспрацоўныя — адзначыцца на біржах працы і г. д. Каб наладзіць цывільнае жыццё, немцы і дазволілі стварыць шэраг нацыяналістычных арганізацый. У кастрычніку 1941 г. у Менску была створана т. зв. «Беларуская народная самапомач», на чале якой стаяў кіраўнік пражскага філіяла «Беларускага камітэта самапомачы» Іван Ермачэнка.

Галоўнай мэтай БНС рэкламавалася «дапамога пацярпеўшым ад ваенных дзеянняў беларусам, бальшавіцкага і польскага пераследавання, памагаць адбудоўваць зруйнаваны чужынцамі беларускі край, пашыраць і развіваць беларускую культуру». Хаця немцы і кантралявалі дзейнасць камітэта, яго кіраўнікі імкнуліся да стварэння пры акупацыйных органах працуючых аддзелаў з ліку беларусаў, узброеных атрадаў для барацьбы з партызанамі і г. д. Пры галоўнай радзе БНС увосень 1942 г. стварыліся аддзелы адміністрацыйны, палітычны, вайсковы, школьны, аховы здароўя, якія мелі адпаведнікі ў акругах. Па сутнасці быў створаны апарат, які мог пераняць кіраўніцтва ад немцаў... Толькі ў планах гітлераўцаў не было стварэння «незалежнай Беларусі». (Але пра план «Ост» тады не ведалі не толькі беларускія калабаранты, але і шмат хто з вышэйшага кіраўніцтва III Рэйха.)

Былі таксама створаны навуковае таварыства, прафсаюзы, судовы апарат... Так што разам з прафашысцкім настроем ладзілася і цывільнае жыццё. Паказальная ў гэтым сэнсе дзейнасць паліцыі парадку, якая стваралася ў кожным раёне з мясцовых жыхароў колькасцю да 300 чалавек. Служба парадку выконвала наступныя задачы: крымінальна-паліцэйскія (крымінальныя злачынствы, ахова ўстаноў, складаў і інш.); дзяржаўна-паліцэйскія (расследаванне і праследаванне ўсіх учынкаў, накіраваных супраць нямецкіх улад); ахова грамадскага парадку (дысцыпліна вулічнага руху, надзор за станам дарог); задачы «асобага прызначэння» (садзейнічанне ў барацьбе з партызанамі, паветрана-дэсантнымі атрадамі, суправаджэнне прадуктовых транспартаў на зборныя пункты і г. д.)

У адпаведнасці з гэтымі чатырма групамі задач і будавалася служба парадку, якая мела чатыры аддзяленні.

**— Дык жа ў нашай літаратуры і ў свядомасці людзей стварыўся трывалы вобраз паліцэйскага-здрадніка, «душагуба»...**

— Мяне таксама цікавіла пытанне, а хто ж гэтыя людзі, чым яны кіраваліся. Знаёмства з анкетамі гэтых людзей паказвае, што большасць з іх ці была пакрыўджана ў свой час савецкай уладай, ці ўвогуле лічыла яе сваім ворагам. Да немцаў яны ішлі свядома, каб «змагацца з жыда-камунізмам» (такі выраз сустракаецца не ў адной анкеце). Рыхтуючыся да гэтае публікацыі, я прааналізаваў спіс асабістага складу службы парадку Барысаўскага раёна. На 30 чэрвеня 1942 г. ён налічваў 89 чалавек, большай часткай мясцовых жыхароў. У асноўным гэта маладыя людзі, да 30 гадоў.

Некалькі іншай была сітуацыя ў Заходняй Беларусі, дзе ў паліцыі і на розных адміністрацыйных пасадах было шмат палякаў, якія свядома ўладкоўваліся на гэтую працу па ўказанню лонданскага ўрада Сікорскага. Палякі адмоўна ставіліся як да беларусаў-камуністаў, так і да нацыянальна свядомых дзеячаў. Напрыклад, у дакументах Арміі Краёвай кс. В. Гадлеўскі называецца «беларускім шавіністам...»

**— Але, акрамя паліцыі парадку, была і іншая паліцыя—тая, што змагалася з партызанамі нараўне з карнікамі, паліла вёскі, расстрэльвала мірных жыхароў...**

— Такія акцыі праводзілі іншыя фармаванні — т. зв. «усходнія нацыянальныя». Яны фармаваліся ў асноўным з ваеннапалонных дзеля барацьбы супраць партызан.

На тэрыторыі Генеральнага камісарыята Беларусі вясной 1943 г. дзейнічалі 3-і і 12-ы літоўскія паліцэйскія батальёны, шэраг украінскіх, латышскіх, паўночнакаўказскіх, татарскіх ды іншых. Па стану на 29 лютага 1944 года начальніку СС і паліцыі Беларусі непасрэдна падпарадкоўваліся наступныя паліцэйскія фарміраванні, якія былі створаны з калабарантаў: «Баранавіцкі паліцэйскі ўчастак мясцовай паліцыі — 260 чалавек, **7 беларускіх паліцэйскіх батальёнаў:** 48-ы (Слонім) — 590 чал.; 49-ы (Мінск) — 314 чал.; 60-ы (Баранавічы) — 526 чал.; 64-ы (Глыбокае) — 65 чал.; 65-ы (Наваградак) — 477 чал.; 66-ы (Слуцк) — 172 чал.; 67-ы (Ліда) — 23 чал.; усяго 2167 чал.; **5 украінскіх:** 47-ы (Мінск) — 662 чал.; 57-ы (Гарадзішча) — 438 чал.; 61-ы (Капыль) — 395 чал.; 62-гі (Слонім) — 382 чал.; 63-і (Ліда) — 362 чал. Усяго — 2239 чал., **3 літоўскія:** 3-і (Параф'янова) — 452 чал..; 12-ы (Мінск) — 713 чал.; 255-ы (Старобін)—235 чал.; усяго — 1400 чал.; **1 латышскі** — 271-ы (Докшыцы) — 271 чал.

Я наўмысна падаю толькі фрагментарную інфармацыю: хай чытач сам аналізуе, узважвае звесткі і лічбы... Ён (чытач) ужо стаміўся ад «цэласных» каментарыяў, яму апрыклі павучальны тон, прадвызначанасць герояў і здраднікаў.

**— Скажыце, ці можна лічыць эміграцыю ваеннымі злачынцамі?**

— Хто злачынец, хто не — гэта не пытанне для гісторыка. Кропку тут павінен ставіць суд ці следчы. Вывучаючы дакументы, напрыклад, 12-га літоўскага паліцэйскага батальёна (які, дарэчы, толькі з 6 кастрычніка па 7 лістапада 1941 г. знішчыў на тэрыторыі Мінскай вобласці звыш 40 тысяч чалавек), у мяне няма ніякага сумнення, што ўсе, хто быў у гэты час у батальёне, з'яўляюцца злачынцамі. Але каб суд Шатландыі прызнаў камандзіра ўзвода Гецэвічуса ваенным злачынцам, патрэбны вельмі важкія доказы, у тым ліку паказанні жывых сведкаў.

У справе ваенных злачынцаў ёсць шмат недарэчнасцей. Так, згодна з рашэннямі Нюрнбергскага трыбунала, палявая тайная паліцыя (ГФП) не лічыцца, у адрозненне ад СД, злачыннай арганізацыяй. Зараз у міністэрствах юстыцыі Канады, Англіі, Шатландыі, Аўстраліі, Новай Зеландыі, Ізраіля ёсць спецыяльныя аддзелы, якія займаюцца пошукамі ваенных злачынцаў. Я лічу, што кіраўніцтва нашай рэспублікі мае маральнае права ўнесці ў ААН прапанову аб стварэнні такой службы пры ААН.

А што датычыць эміграцыі, то я ўвогуле супраць агульных ацэнак. Гэта ўсё рэцыдывы старога часу. Але я не бачу нічога крыўднага для эмігрантаў у тым, што тыя ці другія звесткі аб іх дзейнасці падчас акупацыі становяцца вядомымі. Трэба да гэтага прывыкнуць, бо архівы яшчэ шмат чаго ўтойваюць...

Дарэчы, хацеў бы звярнуць увагу грамадскасці на стан архіўнай справы ў нашай краіне. Паведамленні пра адкрыццё архіваў ЦК КПСС, аб тым, што амерыканская бібліятэка прыступіла да мікрафільмавання архіва, у мяне выклікала жах. Падумаць толькі, як гэта трэба не паважаць саміх сябе, сваю спадчыну. Архівы — гэта нацыянальнае багацце. Бальшавікам хапіла розуму не знішчыць дакументы сярэднявечча, скажам, архівы Радзівілаў. Мы зараз бедныя, але гэта не значыць, што можна дапусціць, каб была загублена унікальнасць фондаў. Я не супраць таго, каб з дакументамі працавалі замежныя даследчыкі — калі ласка— працуй, здымай ксеракопіі і г. д. Але няхай гэта будзе так, як ва ўсім свеце: за грошы.

Лічу, што кожны свядомы чалавек зараз павінен падтрымаць ідэю стварэння **Нацыянальнага архіва Беларусі**, які павінен каардынаваць дзейнасць усіх іншых архіваў рэспублікі.

# Знік Багушэвічаў аўтограф

## Роздум пад неюбілейную гадавіну

Мне заўсёды кроіла сэрца думка, што дзесь у Вільні ляжыць адным асобнікам арыгінал знакамітай «Пінскай шляхты» або, скажам, пракламацыі «Гаспадары, для Вас пішым гэта апавяданне...» пра трагічныя падзеі ў мястэчку Крожах на Літве (1894 г., прыпісваецца Францішку Багушэвічу). Ды дзесяткі іншых беларускіх рарытэтаў.

Таму заўсёды падчас вандровак ў віленскія ці іншыя архіўныя сховішчы імкнуўся па магчымасці займець фота і ксеракопіі не толькі з адшуканых мною дакументаў, але і з аўтографаў нашых нацыянальных дзеячаў, выяўленых іншымі даследчыкамі. Рабіў не адно дзеля зручнасці мець пад рукою ў ракаўскіх пенатах неабходныя матэрыялы. Заўсёды не апошняй кропляй, што дадавала настойлівасці атрымаць копіі нават у немажлівых варунках, падштурхоўвала думка: «Ці мала што здарыцца з тоненькім шэрым аркушыкам у акіяне іншых дакументаў? Хай сабе акіян той надзейна засцерагаецца ў сховішчах з суперсучаснай сігналізацыяй. Кажуць у народзе: «І стрэльба на сцяне раз сама страляе».

І вось стрэліла. У пачатку красавіка наведаўся ў Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, маючы намер парабіць копіі з матэрыялаў пра Францішка Багушэвіча, адшуканых Генадзем Кісялёвым яшчэ ў 1960-ыя гады (для зборніка дакументаў і матэрыялаў пра Мацея Бурачка, запланаванага ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук Беларусі). На падставе іх даследчык напісаў выдатны артыкул «Мужыцкі адвакат», якім скончваецца этапная ў гісторыі беларускага літаратуразнаўства кніга «даследванняў і знаходак» «З думай пра Беларусь» (Мн., 1966). Не раз і не два чытаючы нарыс, густа заснаваны на шматлікіх невядомых матэрыялах, а таму заўсёды цікавы пры кожным перачытванні, запомніў адну справу пра Багушэвіча-адваката. Пэўна, уражаны нестандартнай для архіўных папак скупасцю, даследчык падрабязна пераказаў яе змест:

**«Сярод папер камісіі паверанных да нас дайшла асабістая справа прысяжнага паверанага Багушэвіча, толькі, на жаль, яна даволі бедная. У ёй усяго тры дакументы, напісаныя рукой Багушэвіча.**

**Па-першае, гэта заява Багушэвіча ў камісію прысяжных паверыных пра ад'езд яго з 20 жніўня 1893 года за граніцу на 16 дзён. Аб гэтай загранічнай паездцы пісьменніка мы дагэтуль нічога не ведалі. Звяртае на сябе ўвагу тое, што яна была зроблена напярэдадні выхаду ў свет «Смыка беларускага», і зусім верагодна, што Багушэвіч вёз з сабой рукапіс кнігі [...].**

**Другі дакумент, які захоўваецца ў асабістай справе Багушэвіча, — заява ад 20 лютага 1897 года пра паездку ў Варшаву «на няпэўную колькасць дзён».**

**Трэці дакумент (ён адлюстроўвае важную веху ў жыцці пісьменніка) прыводзім поўнасцю...»**

Далей падавалася (у беларускім перакладзе) заява цяжкахворага паэта ў камісію прысяжных паверыных пры Віленскім Акруговым судзе ад 20 траўня 1898 года. Перад самым ад'ездам у Кушляны. Назаўсёды.

Можна ўявіць маё здзіўленне, калі ў Вільні разгарнуў добравядомую папку і знайшоў там... усяго два дакументы! Першы і трэці. «Сярэдні» (заява ад 20.02.1897 г.) знік! Усхваляваны, падаўся да супрацоўніц архіва, пераконваючы іх у страце.

— Гэта неверагодна, — пачуў у адказ ад загадчыцы чытальні Руты Лючыкайтэ. — Да вас справу ніхто не гартаў, а калі і замаўлялі, дык даўнавата.

Сапраўды, новенькі ліст выкарыстання (архіўная метрычка), укладзены ўчора-сёння перад выдачай мне «Дела о присяжном поверенном Франце Казимировиче Богушевиче», цнатліва бялеў чысцінёй. Мо той, папярэдні, з даследчыцкімі аўтографамі (найперш, зразумела, Г. Кісялёва) сплыў разам з Багушэвічавым? Тым самым не пакідаючы ніякіх слядоў для высвятлення, хто апошнім замаўляў папку з сігнатурай віленскага архіва: фонд 448, вопіс 9, адзінка захавання 236.

Давялося назаўтра прыхапіць пакінутую ў гатэлі кісялёўскую кніжку. Чытаю і перакладаю Руце напісанае чвэрць стагоддзя таму. Уважлівей прыглядзеўшыся да архіўнай пагінацыі, заўважаю на апошняй старонцы сцертую лічбу «4», выпраўленую алоўкам на «2». Пэўна, дакумент, які знік, займаў два аркушы? У канцы справы старонка з архіўнай пячаткай-штампам: «В этом деле проверено и пронумеровано...» Далей ад рукі ўпісана «Du Lapoi (2)», дата і подпіс архівaрыуса». Дата сведчыць: страта Багушэвічавага аўтографа здзейснілася не пазней 15 ліпеня 1983 года.

Вярнуўшыся ў Менск, прашу спадара Кісялёва прынесці колішнія выпісы з «Дела о присяжном поверенном Франце Казимировиче Богушевиче». Маўляў, у Вільні мне гэтак шанцавала ў пошуках новых звестак пра Багушэвіча ў фондах Віленскай рыма-каталіцкай кансісторыі, што не хапіла часу ладам пераглядзець вядомае з фондаў Віленскага акруговага суда. Пра знікненне Багушэвічавай заявы я тактоўна змаўчаў, каб не ўсхваляваць такой нядобрай весткай старэйшага беларускага даследчыка, сам унутрана замершы ў чаканні: «Няўжо Генадзь Васілевіч перапісаў з той справы адно прыведзены ў кнізе дакумент?» І толькі назаўтра, пабачыўшы ўсе тры прынесеныя выпіскі, пераказаў пра беспрэцэдэнтнае ў архіўнай практыцы здарэнне. Таксама як і Рута ў Вільні, Генадзь Васілевіч не адразу паверыў, думаючы напачатку, што я не мог адшукаць саму папку.

— Такое здараецца. Як у бібліятэчным кнігасховішчы: не паставіў кнігу на месца і да канца жыцця можаш не адшукаць.

— Ды не, справа знайшлася, а ў ёй толькі два паэтавыя аўтографы...

— Тады выснова адназначная: хтось з ціхіх беларускіх калекцыянераў прыхапіў з сабою. Колісь за Рамуальдам Зямкевічам ішла такая нядобрая слава. Чаму нехта «з ціхіх»? Дык Зямкевіч хоць тое-сёе друкаваў са сваіх багатых збораў, набытых рознымі шляхамі, а тут, у выпадку з Багушэвічавым аўтографам, нікуды не выткнешся. Адразу спытаюць, дзе ўзяў? Сябруку і тое не кожнаму пакажаш...

Ці не лепш «ціхаму» аматару пісьменніцкіх рарытэтаў, калі яно напраўдзе так, як мяркуе Кісялёў, і адбылося, ціха вярнуць дакумент на ранейшае месца?

І яшчэ падумалася. Роўна два гады таму, шырока святкуючы 150-годдзе з дня нараджэння Мацея Бурачка (падзея, пазначаная і ў календары ЮНЕСКА), ніводнай установе не прыйшла ідэя, што не найгоршым падарункам для беларусаў і самога Багушэвіча было б прывезці на Радзіму ягоныя аўтографы. Хай сабе і ў копіях. (Парупілася ж выдавецтва «Мастацкая літаратура» парадаваць чытачоў факсімільным выданнем «Dudki bialaruskaj». Дарэчы, з віленскага паасобніка). За адзін самы танны банкет раённага маштабу, што, не сакрэт, ладзяцца пасля ўрачыстасцяў, льга адзняць і парабіць фотакопіі ўсіх без выключэння вядомых Багушэвічавых аўтографаў. І паэтычных, і службовых. З ліку апошніх адзін ужо знік. Можа, і назаўсёды.

Уявіце на імгненне: дзесь у архіве ці музеі беззваротна прапаў аўтограф Гётэ, Міцкевіча, Пушкіна, Шаўчэнкі... Не ўяўляецца?

На парозе XXI стагоддзя цывілізацыі сорам і ганьба для беларускай нацыі працягваць губляць аўтографы сваіх геніяў. Ці не час Рэспубліцы Беларусь па-дзяржаўнаму паставіцца да праблемы захавання нацыянальных каштоўнасцяў? Не чакаючы, калі на міжурадавым узроўні вырашыцца далікатная праблема вяртання айчынных скарбаў з фондасховішчаў Літвы, Польшчы, Расеі... Ці мы па-ранейшаму будзем некага і нечага баяцца?

Памятаецца, у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР на маю прапанову займець уласную фоталабараторыю і капіравальную тэхніку, намеснік дырэктара інстытута Уладзімір Гніламёдаў, выступаючы на пасяджэнні Вучонага Савета, глыбакадумна заўважыў: «Вы разумееце, таварышы, чым гэта пахне? На ксераксе можна размнажаць не толькі копіі з архіўных матэрыялаў...» Разумная бацькоўская засцярога, якая неўзабаве выразней прагучыць у сумна вядомым ды прызабытым пасквілі «Пена на хвалі перабудовы»: «Чаму тайна распаўсюджваюцца і ходзяць па руках іх самвыдатаўскія дэкларацыі, пракламацыі і заклікі? Хто аддаў у рукі нефармалаў, якія спецыялізуюцца на сацыяльнай дэмагогіі, маладзёжную аўдыторыю, размнажальную тэхніку?..»

Ідэалагічных дазорцаў відавочна задавальняла, каб падпольныя «Лісты Мацея Бурачка» або «Сказ пра Саўку Паўлава і групу хуткага адпору» распаўсюджваліся шляхам рукапісных улётак, нібы ў часы Герцэна ды Каліноўскага. Каб таксама, нібы ў часы сярэднявечча, даследчыкі-архівісты ўласнаручна перабельвалі (і клалі ў стол) мастацкія тэксты часоў Касцюшкі і «Гоманаўцаў», каб не дай Бог не выпырхнулі з архіўных нетраў новыя «Лісты з-пад шыбеніцы». І цяпер (ужо каторы год) без пяці хвілін акадэмікі-літаратуразнаўцы паслядоўна адмаўляюць ідэю пашырэння пры інстытуце рукапіснага сховішча — хіба самае каштоўнае, што застанецца ў акадэмічных сценах з хатніх архіваў аўтараў манаграфій пра поспехі метаду сацрэалізму ды ідэалагічнай барацьбы ў беларускай літаратуры апошняга паўстагоддзя.

У мітуслівым калейдаскопе трагічна-камічных палітыканскіх метамарфозаў нашых дзён беларусы начыста ўжо забыліся пра пажар акадэмічнай бібліятэкі (тады яшчэ горада Ленінграда). Яно лёгка забыць, не ведаючы, што там згарэла. А мне пры кожнай згадцы смыліць душа. Бо тады, падчас «Чарнобыля рускай культуры» (Д. Ліхачоў), загубіўся літаграфаваны адбітак ананімнай беларускай гутаркі «Крыўда і праўда», напісанай у 1863 годзе. Хто з нас ведае, што яшчэ пайшло з дымам зімовай ноччу 1988 года?..

Вяртаючыся да страчанага Багушэвічавага аўтографа, належыць запытаць: хто возьме на сябе клопат збірання і захавання параскіданых па свеце беларускіх рукапісаў? Мо такая велічная і няпростая задача пасуе нядаўна створанаму Музею гісторыі беларускай літаратуры? Ці Нацыянальнаму навукова-асветніцкаму цэнтру імя Ф. Скарыны? Пачаць збіраць зараз, не зважаючы на эканамічны параліч краін былога Саюза, у тым ліку і Беларусі. Спадзявацца, што фантастычная сёння цана адной старонкі ксеракопіі коштам 1—2 рублі ў будучым стане меншай, наіўна. Ці будзем чакаць на чарговы пажар у фондасховішчах суверэнных дзяржаў, каб потым усчынаць танны плач і лямант па зігнуўшым?

Чужая бяда — людзям смех. Апрача беларусаў, за беззваротныя страты нацыянальных святынь нікому не забаліць душа.

Сваім безгалоўем мы духоўна абкрадаем нашчадкаў.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ,**
**старшы навуковы супрацоўнік**
**Інстытута літаратуры імя**
**Я. Купалы АНБ, кандыдат**
**філалагічных навук.**

**P. S. Ананімная нататка «У небяспецы — архівы», надрукаваная ў «ЛіМе» 8 траўня б. г. з паметкай «SOS!», засведчыла немалую глыбіню архіўнай праблемы, пакінутую нам у спадчыну ад СССР. Я не спецыяліст, каб разважаць пра ўмовы захавання дакументаў у фондасховішчах (тэмпературны, вільготны рэжым і г. д.), але як даўні наведвальнік ЦДГА Беларусі ў Менску сведчу: у архіўнай чытальні на вуліцы Казлова, 26 ёсць адзінае (!) месца, дзе пры дзённым святле можна гадзінамі сядзець над старажытным хуткапісам і «не плакаць». За астатнімі 7 сталамі — архіўны прыцемак. Як заўважыў мне наш вядомы сфрагістык Анатоль Цітоў (у мінулым старшы палеограф ЦДГА), гэта «каб не выгараў атрамант на шэрай паперы». Што ж, тады найбольш «ходкія», «папулярныя» справы належала б ксеракапіраваць. Ну, але тут пачатак для спецыяльнай гаворкі.**

**І яшчэ ведаю пэўна: ідэя стварэння «Нацыянальнага гістарычнага архіва з больш чым двух мільёнаў спраў каштоўнай дакументацыі, што мае дачыненне да мінуўшчыны і да сённяшняга дня», а працей паяднанне старажытнай Радзівілаўскай калекцыі і іншых матэрыялаў ЦДГА Беларусі з партыйна-ўліковымі карткамі ўчарашніх камуністаў, якія захоўваюцца ў будынку партархіва былога ЦК КПБ — відавочная спроба не пакінуць без тлустага кавалка навуковых супрацоўнікаў апошняга. Не зважаючы, што яны, навукоўцы, высокае званне «кандыдата гістарычных навук» спрэс атрымлівалі за ідэйныя опусы кшталтам «Роля прафсаюза (партыі, камсамола) для разгортвання сацыялістычнага спаборніцтва 7-ай і 8-ай рабочых пяцігодак у БССР». І такім «вучоным» — «несть им числа».**

**Адно жадаю: каб ад утварэння Нацыянальнага архіва Беларусі выйграла будучыня.**

**Я. Я.**

---

Яшчэ невядома, што горш — развучыцца плакаць, ці развучыцца смяяцца...

Пільны чытач, мабыць, памятае ананімную «Песню пра вялікіх заспанцаў», што «ЛіМ» надрукаваў у студзені. Мусіць, факт публікацыі падахвоціў іншых аматараў іранічнага жанру — і вось перад намі новы твор, аўтар якога Рыфмар Менскі па-свойму бачыць нашых сучаснікаў, і тым, відаць, карыснае яго ўгляданне...

Яшчэ невядома, што лепш — калі цябе не заўважаюць, ці калі з цябе зрэдчас іранізуюць...

**Рыфмар МЕНСКІ**

## Гарэзія

**...Вось крыж Палынны**
**падыйшоў,**
**а мы — у зміявай**
**спакусе,**
**другую тысячу гадоў,**
**людзіны Сіняй Беларусі...**

**...І сёння ў нас — куды**
**ні пойдзеш —**
**убачыць ісціну у твар**
**не зможа ні... паганскі**
**Воюш,**
**ні — а-блавачаны Сутвар*.**

**Ні тая, што віхурыць**
**звонка,**
**культуразнаўства галава,**
**тусовак юных амазонка —**
**нэа-Уніяцкая... Дрыгва**.**

**Нудоту сходаў аздабляе**
**(як закаханасці —**
**капрыз) —**
**нібыта сам выгнаннік**
**Раю —**
**скандальна-геніяльны**
**Сыс.**

**І хай на грудкі ці на**
**спінкі**
**кладуцца Музы перад**
**ім —**
**не ўратуе нас і... Мінкін**
**натурабожаствам сваім.**

**Нібыта адыйшоў ад**
**партый,**
**ды відавочна: тут —**
**канец, —**
**як ліхамудрствуе упарта**
**гіст- дыя- мацкі...**
**Дубавец.**

**Як і ў антычныя часіны,**
**да гераізму на паклон**
**галодных Сіняе краіны**
**вядзе няўрымслівы...**
**Зянон...**

**І пэўна ж, нам не**
**дапаможа,**
**хто прагне (змрочны,**
**быццам сыч)**
**больш, чым «ад можа і**
**да можа...»,**
**жахліва ганарлівы Зьніч...**

**А можа, той, хто БНР**
**(і тым — вандэйцаў**
**разлічыў)**
**з падполля вывеў на**
**пленэр?**
**Ясенін фарбаў — мройны**
**Пушкін?..**

**Мо ён — бліжэйшы за**
**усіх**
**да Кветкі-Папараць**
**таемнай —**
**што раскрываецца**
**няпэўна**
**у навальнічныя часы?..**

●

**...О, Госпадзе! Ці ж можна**
**жыць тысячагоддзі —**
**у зласлоўі?**

**Недасягальная — мігціць,**
**крывавіць Ісціна**
**Сумоўя...**

* — сутвар — той, хто законы дыялектыкі пазначыў словамі спрэчва, адольва і сутва.
** — тая, хто выдае «Унію».

## Удакладненне

У матэрыяле «Народ пачынаецца з каранёў...» («ЛіМ», 8.05.92) па віне рэдакцыі дапушчана недакладнасць. Аўтары фільма «Пранясі, Божа, хмару!» — Зінаіда Мажэйка і аператар Алег Шклярэўскі.




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня «Беларускі Дом друку».

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Нумар падпісаны ў друк 21.05.92 у 18.10.

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.**

**Рэдакцыйная калегія:**

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

**Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.**

Індэкс 63856
Тыраж 18068

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12